● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

13 лютага 1996 г.
аўторак, №№ 41-42
(22844—22845)



# ЗВЯЗДА

НАЎЗДАГОН

## Міністэрства сельскай гаспадаркі спадзяецца на грашовыя ўліванні. Але з-за межаў Беларусі

**У мінулую пятніцу ў Кабінеце Міністраў адбылася рэспубліканская нарада па праблемах аграпрамысловага комплексу Беларусі. Пасля яе завяршэння карэспандэнт «Звязды» звязаўся з міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Васілём ЛЯОНАВЫМ.**

***— Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі з'яўляюцца паведамленні, што на нармальнае правядзенне пасяўной гаспадаркам краіны спатрэбіцца некалькі трыльёнаў рублёў. Зразумела, грошай бракуе. Наколькі спраўдзіліся размовы аб дзяржаўным крэдыце?***

— Крэдыту не будзе, бо ў дзяржавы таксама няма грошай. За кошт чаго збіраемся адсеяцца? Вядома, што рэспубліканскі бюджэт яшчэ не зацверджаны, але ў ім прадугледжаны фонд падтрымкі вёскі. Не трэба забывацца і на абласныя бюджэты. Апроч таго, будзем шукаць сродкі самастойна. Напрыклад, на сёння гаспадаркам Беларусі не хапае каля 1,5 трыльёна на набыццё ўгнаенняў. Гэтыя грошы мы паспрабуем адшукаць за межамі краіны.

***— Наколькі рэальна атрыманне замежных інвестыцый? Ці ёсць у міністэрства, як кажуць, варыянты?***

— Варыянты ўжо ёсць, і зараз яны ўзгадняюцца з Прэзідэнтам.

***— Ці паўставала на мінулай нарадзе пытанне аб парытэце цэн на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю?***

— Не, бо такія пытанні ўжо не існуюць. З-за цэнавых «нажніц» вёска сапраўды страціла шмат, але страчанага не вернеш. Зараз хвалюе іншае: як зрабіць айчынную сельгаспрадукцыю больш таннай і, адпаведна, больш канкурэнтаздольнай. Таму, хутчэй за ўсё, у бліжэйшы час мы знізім цэны на ялавічыну. Няма ўжо сэнсу падымаць іх на тое ж малако. Непакояць таксама занадта вялікія затраты на перапрацоўку сельгаспрадукцыі. Але гэтай праблемай, па даручэнню Прэзідэнта, зоймецца Міністэрства эканомікі.

***— На бягучы год перад галіной пастаўлена задача: павялічыць вытворчасць сельгаспрадукцыі мінімум на 2-3 працэнты. Справіцеся?***

— Калі знойдзем неабходныя 1,5 трыльёна на ўгнаенні, выкананне задачы мы гарантуем. Калі гэтых грошай не будзе, прыйдзецца цяжка. Разам з тым упэўнены: шмат чаго ў дадзеным выпадку будзе залежаць ад нас саміх.

**Сяргей ГРЫБ.**

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА:**

## «СВЯТАМ ЗДАРОЎЯ ПАВІНЕН СТАЦЬ КОЖНЫ ВЫХАДНЫ ДЗЕНЬ»



Пацвярджэннем таго, што здароўе нацыі — справа дзяржаўнай важнасці, стала свята здароўя, праведзенае ў Мінску 10 лютага. Нягледзячы на амаль дваццаціградусны мароз, тысячы юных гараджан са сваімі бацькамі прыйшлі на спецыяльна абсталяваныя пляцоўкі ва ўсіх дзевяці раёнах сталіцы. Але самай мнагалюднай, вядома ж, была пляцоўка на праспекце Машэрава ля Палаца спорту. Менавіта сюды для ўдзелу ў свяце прыехаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка разам са сваім сынам — у спартыўным касцюме і з канькамі.

На думку Прэзідэнта, такія святы патрэбны не столькі дарослым, колькі нашым дзецям. Не сакрэт, што многія падлеткавыя клубы і гурткі закрыліся, а ў тых, якія яшчэ існуюць, плата не ўсім бацькам па кішэні. І на такіх святах, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, дзеці не толькі будуць занятыя, але і набяруцца здароўя. Ён не стаў шмат гаварыць, а паспяшаўся стаць на лёд, запрасіўшы да актыўнага адпачынку на свежым паветры ўсіх прысутных.

Арганізатары свята — Мінгарвыканком і яго ўпраўленне культуры, гарадскі спартыўны камітэт, райвыканкомы сталіцы — пастараліся, каб людзі хоць бы на час забыліся на свае штодзённыя клопаты. Спорт заўсёды ўзнімае настрой і дае зарад бадзёрасці. Таму любому жадаючаму была дадзена магчымасць пакатацца на каньках і лыжах, прыняць удзел у атракцыёнах і конных забавах, паназіраць за хакейнымі спаборніцтвамі.

Удосталь накатаўшыся на каньках, Аляксандр Лукашэнка вырашыў не абмяжоўвацца адным толькі адпачынкам, а накіраваўся па гандлёвых радах. Размаўляючы з пакупнікамі і прадаўцамі, ён цікавіўся настроем людзей, зарплатамі і цэнамі. Кіраўнік дзяржавы пацвердзіў, што мае намер прыпыніць рост цэн, узняўшы пры гэтым узровень жыцця самых сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва, асабліва пенсіянераў. Паводле яго слоў, ужо ў студзені пенсіі былі павялічаны ў сярэднім на 50 тысяч рублёў, у лютым чакаецца прыбаўка яшчэ на 30—40 тысяч. А паступова ўзровень пенсіі будзе ўзняты да памеру сярэдняй заработнай платы ў рэспубліцы. Прэзідэнт падрабязна адказаў на самыя розныя пытанні мінчан, якія прыйшлі на свята. Яны датычалі работы парламента, незалежнай прэсы, падаткаабкладання.

Праведзенае свята здароўя будзе мець свой працяг. 24 лютага адбудзецца масавы лыжны прабег ад Мінска да Раўбіч. Разам з усімі жадаючымі мае намер стаць на лыжню і Аляксандр Лукашэнка. А 3 сакавіка Мінгарвыканком запрашае жыхароў сталіцы і яе гасцей на заключнае свята — «Провады зімы».

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## «КРУГЛЫ СТОЛ» ДАПАМОЖА ДЭПУТАТАМ У ІХ ЗАКАНАТВОРЧАСЦІ

**Камерцыйныя банкі рэспублікі першапачаткова сталі не больш чым ліхвярскімі канторамі. Такую ацэнку іх дзейнасці даў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Ляонаў у час дыскусіі, якая адбылася 10 лютага ў Вярхоўным Савеце за «круглым сталом» па тэме: «Праблемы развіцця сельскай гаспадаркі і шляхі іх вырашэння».**

Было адзначана, што нават «Аграпрамбанк» выдзяляе вёсцы ўсяго толькі 10 працэнтаў крэдытаў з уласных сродкаў. Спецыфіка вытворчасці тут не спрыяе хуткаму абароту грошай. Аднак сялянам, перш чым араць і сеяць, трэба купіць угнаенні, сродкі аховы раслін, запчасткі і паліва. Гэта, дарэчы, трэба было зрабіць яшчэ ўчора, паколькі сяўба ўжо не за гарамі. У час дыскусіі кіраўнікі і дэпутаты парламента, аўтарытэтныя вучоныя і практыкі часцей прапаноўвалі шляхі выхаду з крызісу, чым канстатавалі і без таго ўсім вядомыя факты падзення вытворчасці, адсутнасці абаротных сродкаў, нізкай зарплаты і г.д. Намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Гаркун падрабязна спыніўся на праблемах рэфарміравання аграпрамысловага комплексу, не абяцаючы скарацечнасці гэтага складанага працэсу. Ён выказаў перакананне ў неабходнасці развіцця і падтрымкі новых, альтэрнатыўных формаў гаспадарання на вёсцы, удасканалення крэдытна-фінансавай і падатковай палітыкі. Задача, пастаўленая перад аграрнікамі рэспублікі Прэзідэнтам, — дабіцца ў гэтым годзе 2-3-працэнтнага росту вытворчасці, на яго думку, цалкам рэальная і дасягальная.

Вялікую цікавасць у прысутных выклікала інфармацыя акадэміка Болюса Пошкуса аб сур'ёзных праліках рэфарміравання АПК у Расіі. Цяперашні крызіс у нашых краінах ён назваў нетыповым у параўнанні з іншымі дзяржавамі. Паводле слоў расійскага вучонага, яго прычыны «ў разбурэнні аператыўных сувязей у выніку развалу СССР з трывалымі інтэграцыйнымі сувязямі паміж галінамі АПК». Расійскі акадэмік указаў на небяспеку, што падпільноўвае беларускіх рэфарматараў на шляху пераўтварэння сельскай гаспадаркі, і прапанаваў шэраг мадэляў, якія праходзяць апрабацыю ва Ульянаўскай і Ніжагародскай абласцях Расійскай Федэрацыі.

Падводзячы вынікі «круглага стала», Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі падкрэсліў, што першае такое мерапрыемства, арганізаванае парламентарыямі, не стане апошнім. На чарзе «круглыя сталы» з прамыслоўцамі, прадстаўнікамі навукі і культуры, творчай інтэлігенцыяй.

Сямён Шарэцкі прызнаў, што цяперашняя сітуацыя ў краіне з'яўляецца вынікам краху ранейшай сістэмы і адмовы ад рынкавых адносінаў. Закранаючы рэфарміраванне буйных аграпрамысловых вытворчасцей, Старшыня Вярхоўнага Савета выказаўся за іх захаванне, пераходзячы ад гарызантальнага кааперавання да вертыкальнага. Ён пагадзіўся з думкай міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіля Ляонава, што банкаўская дзейнасць у краіне павінна быць у інтарэсах вытворцаў і дзяржавы. Гаворачы аб вельмі вострай на сёння праблеме інвестыцый, Сямён Шарэцкі не выключыў магчымасці закладу нацыянальнага багацця пад іх пры ўсёй рызыкоўнасці гэтага кроку.

**Віктар САХАНКОЎ, БЕЛТА.**

## НАДЗЕІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА НА ВЫХАД З ЭКАНАМІЧНАГА КРЫЗІСУ ЗВЯЗАНЫ З А. ЛУКАШЭНКАМ

**Мяркуючы па выніках сацыялагічных апытанняў, праведзеных Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, насельніцтва Беларусі не адрозніваецца асаблівым аптымізмам наконт сацыяльна-эканамічнай будучыні рэспублікі.**

Аднак колькасць тых, хто спадзяецца на хуткае паляпшэнне, у 1995 годзе ў параўнанні з 1994-м узрасла больш чым удвая (з 9 да 20 працэнтаў). Тым не менш, 49 працэнтаў рэспандэнтаў падчас апошняга апытання лічаць, што ў бліжэйшыя гады сацыяльна- эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршыцца, прыкладна трэцяя частка апытаных (29 працэнтаў) мяркуе, што ўсё застанецца па- ранейшаму.

З кім жа звязвае беларускі народ свае надзеі на выхад з эканамічнага крызісу? Калі ў 1992—1993 гадах галоўныя спадзяванні былі звязаны з урадам, то пасля абрання першага Прэзідэнта сітуацыя рэзка змянілася: надзеі значнай часткі насельніцтва (у 1994 годзе — 49 працэнтаў, у 1995 годзе — 45 працэнтаў) сканцэнтраваліся на адным канкрэтным чалавеку — А.Лукашэнку. Пры гэтым істотна знізіўся рэйтынг іншых уладных структур, і перш за ўсё ўрада.

Акрамя таго, грамадзяне Беларусі звязваюць пэўныя спадзяванні і з заканадаўчай уладай — новым парламентам. Калі ў 1994 годзе толькі 9 працэнтаў рэспандэнтаў спадзяваліся на Вярхоўны Савет, то ў 1995 годзе ўжо 16 працэнтаў апытаных адзначылі, што звязваюць свае надзеі на выхад з эканамічнага крызісу з Вярхоўным Саветам новага склікання.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**










## КАМІСІЯ ПРАВЕРЫЦЬ ЗАХОЎВАННЕ КАШТОЎНАСЦЕЙ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выдаў распараджэнне аб стварэнні камісіі па праверцы захоўвання і выкарыстання каштоўных металаў і ювелірных вырабаў ва ўпраўленні дзяржаўнага сховішча каштоўнасцей Камітэта па каштоўных металах Мінфіна.**

Старшынёй камісіі назначаны Уладзімір Пагарэцкі, галоўны спецыяліст апарату Савета бяспекі рэспублікі.

Дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі даручана далажыць Прэзідэнту краіны аб выніках праверкі да 14 лютага бягучага года.

**БЕЛТА.**

НАДВОР'Е

## МАРОЗ СПАДЗЕ, АЛЕ НЯЗНАЧНА

***Як і меркавалі сіноптыкі, да 12 лютага надвор'е змянілася***

Марозны антыцыклон над цэнтральнымі раёнамі еўрапейскай часткі Расіі ўступіў месца далёкай ускраіне цёплага і актыўнага цыклону над Вялікабрытаніяй. Такое змяненне ў сінаптычнай абстаноўцы абумоўлена паступленнем у рэспубліку вільготнай паветранай масы, што выклікала снег, аслабленне марозу і ўзнаўленне ветру.

У наступныя трое сутак чакаецца ўмеранае марознае надвор'е. 13-14 лютага — па большай частцы тэрыторыі рэспублікі, а 15 лютага — у яе паўднёва-ўсходніх раёнах чакаецца снег, месцамі мяцеліца і парывісты вецер. Тэмпература ўначы будзе вагацца ў межах 10—15 С, у асобных раёнах пры праясненні — 18-19° С, удзень ртутны слупок тэрмометра пакажа 5—10 С ніжэй нуля.

Да канца тыдня рэзкіх змяненняў у надвор'і не чакаецца. Магчыма, што тэмпература павысіцца на некалькі градусаў.

**Вера ЧЫЖЫК.**

# АБ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

***Даклад прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь М. М. Чыгіра на сесіі Вярхоўнага Савета (8 лютага 1996 года)***

**(Працяг. Пачатак у №№ 39-40).**

У сукупнасці з пераходам на свабодныя цэны па большасці найменняў прадукцыі і паслуг гэта дазволіла стабілізаваць сітуацыю на валютнай біржы і скараціць узровень інфляцыі з 39,2 працэнта ў студзені месяцы да 4,1 працэнта сярэднямесячнай інфляцыі ў другім паўгоддзі 1995 года.

Праводзімая палітыка ў галіне крэдыту і фінансаў пастаянна падвяргалася рэзкай крытыцы, асабліва з боку экспарцёраў прадукцыі. Аднак аналізуючы вынікі 1995 года, можна з упэўненасцю сказаць, што яна, нягледзячы на жорсткасць, была апраўданай і дала станоўчыя рэзультаты.

Я думаю, усім вядома, што штомесячная інфляцыя, якая вымяраецца двухзначнымі лічбамі, здольна разбурыць любую эканоміку. З цяжкасцю, але нам удалося знізіць яе да прымальнага ўзроўню.

Сур'ёзна змянілася палітыка цэнаўтварэння. Яшчэ ў 1994 годзе завершаны пераход на свабодныя цэны на прадукцыю прамысловасці. Паступовы пераход на свабодныя цэны на прадукцыю сельскай гаспадаркі ажыццяўляўся толькі пасля адэкватнага павелічэння даходаў насельніцтва. Мы ўжо сталі сведкамі таго, што па некаторых назвах прадукцыі пасля пераходу на свабодныя цэны вытворца знізіў цану тавару.

Новая палітыка цэн дала магчымасць адысці ад спекуляцыйнага вывазу як прамысловай, так і сельскагаспадарчай прадукцыі за межы рэспублікі, зменшыла датацыйныя нагрузкі на бюджэт.

Павелічэнне цэн на вырабы і паслугі дало магчымасць падняць долю заработнай платы ў затратах на вытворчасць прадукцыі. Сярэдняя заработная плата ў народнай гаспадарцы ў студзені 1995 года склала ў доларавым вылічэнні 29,5 долара ЗША, а ў снежні — 88,2 долара ЗША. Такім чынам, была павышана зацікаўленасць таваравытворцы ў канчатковых выніках сваёй працы.

Нягледзячы на змяншэнне аб'ёму выпрацаванага валавога ўнутранага прадукту ў рэспубліцы, прыняты меры па недапушчэнню зніжэння ўзроўню рэальнай заработнай платы. У 1995 годзе суадносіны тэмпаў росту зарплаты і індэкса спажывецкіх цэн склалі 94,4 працэнта, што значна вышэй за суадносіны, прадугледжаныя Генеральным пагадненнем паміж урадам, прафсаюзамі і наймальнікамі.

Пытанні рэгулявання аплаты працы пастаянна знаходзіліся ў цэнтры ўвагі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Кабінета Міністраў. Падыход тут вядомы: зарплата павінна не толькі налічвацца, але і зарабляцца.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 лютага 1995 года № 92 прадугледжана, што суб'екты гаспадарання дзяржаўнай формы ўласнасці, дзе ўзровень тарыфнай стаўкі першага разраду перавышае ўзровень гэтай стаўкі для работнікаў бюджэтнай сферы, павінны далейшае павышэнне заработнай платы ажыццяўляць толькі ў прамой залежнасці ад росту аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, павышэння эфектыўнасці гаспадарання. На жаль, не ўсе суб'екты гаспадарання выконваюць гэты ўказ.

Прынятай у кастрычніку 1995 года пастановай Кабінета Міністраў унесены змяненні і дапаўненні ў дзеючы парадак аплаты працы кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, паставіўшы аплату іх працы ў большую залежнасць ад вынікаў фінансава-гаспадарчай дзейнасці.

Рэальнае становішча спраў з аплатай працы, калі многія прадпрыемствы пастаянна мелі даўгі перад бюджэтам, не разлічваючыся за пастаўкі энерганосьбітаў і ў той жа час устанаўлівалі павышаную ў параўнанні з дзеючай дзяржаўнай, тарыфную стаўку першага разраду, прымусіла Кабінет Міністраў прыняць у канцы 1995 года вядомую ўсім спецыяльную пастанову за № 700.

У ёй прадугледжана, што дзяржаўныя прадпрыемствы і арганізацыі, якія прымяняюць больш высокія памеры тарыфных ставак службовых акладаў, чым прадугледжана рэспубліканскімі тарыфамі аплаты працы і маюць на працягу квартала нездавальняючае фінансавае становішча, пратэрмінаваную запазычанасць па разліках з бюджэтам і за энергарэсурсы, праводзяць разлікі па заработнай плаце з работнікамі па рэспубліканскіх тарыфах, разлічаных на аснове тарыфнай стаўкі першага разраду, зацверджанай Кабінетам Міністраў, і адзінай тарыфнай сеткі з улікам каэфіцыентаў павышэння ставак рабочых па тэхналагічных відах работ.

Многія, і перш за ўсё прафсаюзы, ацэньваюць прынятае рашэнне як жорсткае і несправядлівае. Але аб якой несправядлівасці можа ісці размова, калі пастанова распаўсюджваецца не на гасразліковыя, а на «паўбюджэтныя» прадпрыемствы і арганізацыі.

Нявыплата падаткаў і выкарыстанне матэрыяльных рэсурсаў без іх аплаты — прамое пацвярджэнне адсутнасці гасразліку на такіх прадпрыемствах. Узнікае пытанне: чаму тыя, хто жыве за кошт дзяржавы, павінны атрымліваць зарплату вышэйшую за дзеючыя дзяржаўныя тарыфныя стаўкі і аклады?

У такіх выпадках парушаюцца элементарныя нормы сацыяльнай справядлівасці. Напрыклад, у снежні ў бюджэтнай сферы кожны супрацоўнік адпрацаваў 160 гадзін, а ў прамысловасці — 133 гадзіны. Пры гэтым сярэдняя зарплата работнікаў адукацыі склала крыху больш за 70 працэнтаў ад заработнай платы ў прамысловасці.



Па прадпрыемствах, якія працуюць эфектыўна, няма сэнсу стрымліваць далейшае нарошчванне патэнцыялу і заработнай платы, але там, дзе гэта не атрымліваецца, не трэба страчваць сумленне і патрабаваць незаробленыя грошы ў памерах, якія перавышаюць зарплату бюджэтніка.

Уваходжанне ў адзіную мытную прастору паставіла перад эканомікай і некаторыя праблемы. Выконваючы прынятыя абавязацельствы, Рэспубліка Беларусь увяла новыя мытныя пошліны на імпартуемыя матэрыяльныя рэсурсы і падатак на дабаўленую вартасць у памеры 20 працэнтаў.

Увядзенне ПДВ паставіла многія прадпрыемствы ў крайне цяжкае становішча. Таму ўрад, аналізуючы ўзнікшую сітуацыю, прыняў шэраг рашэнняў, рэалізацыя якіх фактычна вызваляе таваравытворцаў ад уплаты ПДВ на імпартуемыя сыравіну і матэрыялы.

Акрамя таго, пастановамі Кабінета Міністраў ад 5 верасня 1995 года № 484 і № 692 ад 15 снежня 1995 года зацверджаны пералікі тэхналагічнага абсталявання і запасных частак да яго, а таксама транспартных сродкаў агульнага карыстання і запасных частак да іх, якія не абкладаюцца падаткам на дабаўленую вартасць пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь. Вызначаны таксама пералік харчовых тавараў для дзяцей, па якіх прымяняецца паніжаная стаўка падатку на дабаўленую вартасць у памеры 10 працэнтаў.

З мэтай аздараўлення фінансавага становішча суб'ектаў гаспадарання Кабінетам Міністраў была прынята пастанова № 435 ад 8 жніўня 1995 года. Гэтай пастановай прадугледжвалася ўвядзенне да канца 1995 года адлічэнняў у бюджэт і небюджэтныя фонды па шэрагу прадпрыемстваў на ўзроўні не больш за 40 працэнтаў ад агульнай сумы паступленняў.

Гэта дало магчымасць прадпрыемствам за кошт змяншэння плацяжоў у бюджэт накіроўваць паступаючыя на разліковы рахунак сродкі на пагашэнне даўгоў па зарплаце, энергарэсурсах, сыравіне і да т. п., што несумненна палепшыла іх фінансавае становішча.

Цяпер Кабінетам Міністраў рыхтуецца пастанова, якой указаная льгота будзе размеркавана і ў бягучым годзе на прадпрыемствы, якія не дапусцілі павелічэння запазычанасці перад бюджэтам.

Далей. У сувязі са складанай фінансавай сітуацыяй на прадпрыемствах у мінулым годзе яны ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь былі вызвалены ад выплаты пені за затрымку пералічэнняў у бюджэт. Такі ж указ рыхтуецца ў гэтым годзе.

На працягу 1995 года прадпрыемствам, якія маюць прыярытэтнае значэнне для рэспублікі, прадастаўляліся бюджэтныя пазыкі на льготных умовах у мэтах забеспячэння сыравінай, энергарэсурсамі, ліквідацыі запазычанасці па заработнай плаце, папаўнення абаротных сродкаў. Так, 48 прадпрыемствам Мінпрома былі выдзелены бюджэтныя пазыкі на агульную суму 260 млрд. рублёў, канцэрну «Беллегпром» — 66 млрд. рублёў і 2,6 млн. долараў ЗША, камітэту «Белбіяфарм» — 23 млрд. рублёў.

У 1995 годзе прыкладна сямідзесяці прадпрыемствам быў прадастаўлены падатковы крэдыт на суму звыш 150 млрд. рублёў. Прадастаўляліся таксама падатковыя льготы ў выглядзе адтэрміноўкі плацяжоў у бюджэт. Як паказаў аналіз, такая падтрымка істотна палепшыла фінансавае становішча многіх прадпрыемстваў.

Напрыклад, для акцыянернага таварыства «Дываны Брэста» з 1 мая і да канца 1995 года быў адменены акцызны падатак на дываны і дывановыя вырабы, што дало магчымасць выслабаненыя сродкі ў суме 2,5 млрд. рублёў накіраваць на зніжэнне цэн гатовай прадукцыі да ўзроўню расійскіх. Дзякуючы гэтаму прадпрыемства змагло захаваць рынкі збыту ў Расіі.

А ў выніку больш, чым у тры з паловай разы скараціліся рэшткі гатовай прадукцыі — з 362 тысяч квадратных метраў на 1 чэрвеня 1995 года да 57 тысяч квадратных метраў на 1 студзеня 1996 года. За гэты перыяд быў адноўлены баланс рабочага часу, паступова павялічыліся аб'ёмы вытворчасці, яна стала прыбытковай.

Але, на жаль, ёсць і іншыя прыклады, прычым не адзінкавыя, калі «кропкавая тэрапія» не дае станоўчага эфекту. У такіх выпадках дзяржаўныя сродкі выкарыстоўваюцца нерацыянальна, а калі гаварыць прама — праядаюцца.

Мы лічым, што часовая падтрымка толькі тады мае сэнс, калі дапамагае вывесці прадпрыемства з прарыву, а выдзеленыя сродкі паступова вяртаюцца ў бюджэт. Усе іншыя варыянты толькі адкладваюць фактычна ўжо надышоўшае банкруцтва.

Добра, што ва ўсё большай ступені гэта пачынаюць разумець і самі працоўныя калектывы. Фармулюючы свае патрабаванні, многія з іх сёння ўсё часцей гавораць не столькі аб павышэнні зарплаты, колькі аб неабходнасці неадкладна вырашаць лёс саміх прадпрыемстваў.

Радыкальнае выйсце ўрад бачыць у правядзенні новага этапа эканамічнай рэформы. Хочам мы гэтага ці не, але мы стаім на парозе яе. Нарастанне вала такіх канкрэтных праблем, як недахват абаротных сродкаў, рост пратэрмінаванай запазычанасці банкам і нядоімак перад бюджэтам, а таксама ўзаемныя неплацяжы, перавышэнне крэдыторскай запазычанасці над дэбіторскай звязаны, перш за ўсё, з дэфіцытам гаспадарскіх адносінаў да справы, з адсутнасцю ў эканоміцы эфектыўнага ўласніка, з няўзгодненасцю эканамічных інтарэсаў.

У гэтых адносінах вельмі павучальны вопыт Мінскага камвольнага камбіната, які з сакавіка 1994 года называецца акцыянерным таварыствам. У 1995 годзе вытворчасць пражы і шарсцяных тканін склала ўсяго 12 працэнтаў да ўзроўню 1991 года. Аднак колькасць персаналу тут істотна не змянялася, і таму ўрэшце настаў абвал, калі ўжо стала немагчымым з-за вычэрпвання пакупніцкага попыту ўключаць у цану рэалізацыі яўна завышаныя выдаткі вытворчасці.

Цяпер многія кіраўнікі прадпрыемстваў пачынаюць ужо разумець: гаспадаранне старымі метадамі становіцца немагчымым. Каб выжыць і зрабіць хоць невялікі крок наперад, трэба наводзіць парадак у цэхах і зніжаць выдаткі вытворчасці.

Нас асабліва непакоіць лёс буйных прадпрыемстваў — нацыянальных гігантаў. Адна справа — даўгі перад бюджэтам і перад пастаўшчыкамі камплектуючых. Іншая — адсутнасць канкурэнтаздольнай прадукцыі, гэта значыць перспектыў на будучыню. Выйсце бачыцца толькі ў радыкальным змяненні механізма гаспадарання. Настаў час у поўным аб'ёме выканаць Праграму прыватызацыі, зацверджаную Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на 1996 год з улікам усіх новых падыходаў.

Трэба прызнаць, што адкладванне раней прынятых рашэнняў па прыватызацыі, а таксама правал пілотнага праекта па прыватызацыі трох прадпрыемстваў, якія праводзіўся пад эгідай Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, негатыўна адбіліся на ўзаемаадносінах Беларусі з міжнароднымі арганізацыямі, на міжнародным іміджы рэспублікі.

Мерапрыемствы па саніраванню буйной вытворчасці — вельмі дарагое задавальненне для бюджэту. Таму рэструктурызацыя і перапрафіляванне буйных прадпрыемстваў павінны дапаўняцца прыватызацыяй і распрадажай непатрэбнай і бескарыснай маёмасці. Страчваючы ў адным, з'яўляецца магчымасць выйграць у другім.

Новы этап эканамічнай рэформы прадугледжвае адпрацоўку і ўключэнне механізма банкруцтва, гэта значыць поўнай эканамічнай і юрыдычнай адказнасці за вынікі гаспадарання.

Давайце звернемся да афіцыйнай статыстыкі. Фактычна ўсе 100 працэнтаў неплацяжоў і пратэрмінаванай запазычанасці прыпадаюць у дадзены момант на дзяржсектар, калектыўныя і народныя прадпрыемствы. Я думаю, што няма неабходнасці спецыяльна каменціраваць гэту акалічнасць.

Увесь комплекс пытанняў, звязаных з запускам механізма банкруцтва, раней намячалася вырашыць у рамках рэалізацыі Праграмы неадкладных мераў. З улікам набытага вопыту гэту работу трэба завяршыць не пазней другога квартала бягучага года.

Адначасова ўрад мае намер прадоўжыць работу па паляпшэнню кіруемасці дзяржаўным сектарам і павышэнню яго эфектыўнасці. Гэты сектар яшчэ доўгі час будзе заставацца вядучым у нацыянальнай эканоміцы.

Ёсць сэнс удасканальваць кантрактную сістэму за кошт развіцця конкурсных адносінаў. Канкурыраваць павінны перш за ўсё не паслужныя спісы, а бізнес-планы прэтэндэнтаў на кіруючую пасаду дырэктара.

Неабходна ўдасканальваць таксама парадак кантролю з боку дзяржавы за выкананнем умоў заключанага кантракта. Усё гэта забяспечыць прыток маладых кадраў. Адначасова кантрактная сістэма павінна абараняць правы дырэктарскага корпуса.

### 3. АГРАРНЫ СЕКТАР

Аб становішчы ў сельскай гаспадарцы трэба сказаць асобна. Выклікана гэта перш за ўсё крайне складанай сітуацыяй у гэтай важнейшай сферы эканомікі. Складанасць, трэба падкрэсліць, не перарасла пакуль у безвыходнасць.

Я не магу прызнаць, што сельскай гаспадарцы недастаткова ўвагі ўдзелялася як з боку Прэзідэнта, так і ўрада. Асноўнае, што рабілася для выратавання сельскай гаспадаркі — адначасова з нарошчваннем даходаў насельніцтва адбывалася павелічэнне закупачных цэн на сельгаспрадукцыю.

Закупачныя цэны на збожжа ў доларавым вылічэнні ў 1994 годзе склалі 43,9 долара ЗША за тону, у 1995 — 67,6 долара ЗША. У бягучым годзе яны практычна будуць падвоены. Аналагічным чынам выглядаюць і закупачныя цэны на малако. Было ў 1994 годзе 31,6 долара ЗША за тону, цяпер стала 192,3 долара за тону. Закупачная цана на ялавічыну павялічылася з 248 долараў у 1994 годзе да 787 долараў за тону ў студзені бягучага. Сёння закупачныя цэны на большасць прадуктаў ужо наблізіліся да сусветных.

Як і прасілі аграрнікі, суадносіны закупачнай цаны на малако і цаны на паліва ўстаноўлены пры суадносінах прыкладна адзін да двух.

Разумеючы, што павышэнне закупачных цэн на сельгаспрадукцыю істотна адставала ад росту цэн на прамысловую прадукцыю, урад пастаянна адшукваў магчымыя рэсурсы для падтрымкі сельскай гаспадаркі. У мэтах аказання фінансавай падтрымкі АПК выдадзены авансы на закупку збожжа і маладняку буйной рагатай жывёлы, бюджэтныя пазыкі на патанненне мінеральных угнаенняў, а таксама на пагашэнне запазычанасці за камбікармы птушкафабрык і жывёлагадоўчых комплексаў.

Увогуле за 1995 год на гэтыя мэты было выдзелена 890 млрд. рублёў ільготнага бюджэтнага крэдыту і 1 трлн. 317 млрд. рублёў пазабюджэтных незваротных пазык.

У выглядзе таварнага крэдыту сельская гаспадарка атрымала 195 тысяч тон паліва на суму 337 млрд. рублёў. Праведзена адтэрміноўка плацяжоў па крэдытнай запазычанасці 1994 года, устаноўлена льготная цана на газ, які пастаўляецца цяплічным камбінатам. Аказана падтрымка маладым кіраўнікам гаспадарак пры дапамозе выдзялення гаспадаркам, дзе яны працуюць, каля 200 млрд. рублёў.

Урад і ў далейшым будзе адшукваць сродкі для падтрымкі аграрнага сектара. Паводле папярэдніх разлікаў, яна складзе ў 1996 годзе 4,3 трлн. рублёў. Плануецца ажыццявіць авансаванне гаспадарак пад дзяржаўны заказ, у першую чаргу на збожжа, у памеры не менш як 50 працэнтаў да агульнага аб'ёму яго нарыхтовак.

З улікам вопыту 1995 года ў Вярхоўны Савет унесена прапанова аб захаванні пазабюджэтнага фонду падтрымкі сельскай гаспадаркі. Прыярытэтным напрамкам яго выкарыстання будзе забеспячэнне гаспадарак мінеральнымі ўгнаеннямі, а таксама набыццё тэхнікі на аснове лізінгу.

Вядома, крызісныя з'явы востра закранулі аграрны сектар. Але гэты крызіс выкліканы перш за ўсё нізкай прадукцыйнасцю, нерацыянальным выкарыстаннем наяўных рэсурсаў. Як інакш можна растлумачыць тое, што поле, напрыклад, па-ранейшаму апрацоўваецца, маладняк, здавалася б, як і раней, ставіцца на адкорм, а аддача зніжаецца.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# АБ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

***(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)***

Мы маем мноства прыкладаў, калі фінансавыя сродкі і матэрыяльныя рэсурсы з-за безгаспадарчасці, дрэннай работы кіраўнікоў і спецыялістаў выкарыстоўваюцца крайне нездавальняюча. Так, у мінулым годзе ўраджай збожжавых менш за 15 цэнтнераў з гектара атрымалі ў 19 раёнах.

Ураджайнасць бульбы ў Брэсцкім, Гарадоцкім, Ельскім, Лельчыцкім, Лоеўскім, Мазырскім і Быхаўскім раёнах склала менш за 75 цэнтнераў з гектара, а ў Нараўлянскім і таго менш — усяго 44 цэнтнеры.

У сарака раёнах надой на карову ў 1995 годзе быў меншы за 2 тысячы кілаграмаў. У Расонскім, Гарадоцкім і Лельчыцкім раёнах ён не дасягнуў і паўтары тысячы кілаграмаў.

У выніку безгаспадарчасці, недастатковай укормленасці жывёлы, якая прадаецца на мясакамбінаты, і страт пры перапрацоўцы мяса, а таксама з-за нізкай якасці і недастатковай перапрацоўкі малака наша сельская гаспадарка недаатрымала за год увогуле каля трыльёна рублёў.

Паводле папярэдніх даных, кошт валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі па ўсіх катэгорыях гаспадарак у супастаўных цэнах зменшыўся ў мінулым годзе на 5 працэнтаў, а ў калгасах і саўгасах — на 12 працэнтаў у параўнанні з 1994 годам. Прыкладна 390 калгасаў і саўгасаў, або 15 працэнтаў ад агульнай колькасці, у 1994 годзе аказаліся стратнымі.

Вядома, пры такім узроўні гаспадарчай дзейнасці ніякая цэнавая палітыка і сістэма дзяржаўнай падтрымкі ніколі не дапамогуць.

Сёння ўжо многія разумеюць, што гаспадаркі з нізкай прадукцыйнасцю і аддачай не маюць будучыні, іх пара адпускаць, як кажуць, на вольны хлеб. Дзяржава не зможа без канца аплачваць безгаспадарчасць за кошт падаткаў, спаганяемых з іншых галін і насельніцтва.

Ключавым пытаннем у аграрных пераўтварэннях сёння выступаюць: прызнанне ў належным аб'ёме права прыватнай уласнасці на зямлю, свабоды выхаду селяніна з маёмасным і зямельным паем, свабоды выбару формы гаспадарання, пачынаючы ад індывідуальнай, фермерскай гаспадаркі, кааператываў новага тыпу аж да тых жа рэфарміраваных калгасаў і саўгасаў. Але працэс рэфарміравання сельскай гаспадаркі павінен быць прадуманым, паступовым і ажыццяўляцца толькі са згоды працоўных калектываў.

Ацэньваючы прынятыя меры па стварэнню ўмоў для вядзення самаакупнай сельскагаспадарчай вытворчасці, урад лічыць, што існуючыя ўмовы блізкія да аптымальных. У наяўнасці безумоўна недахват абаротнага капіталу. Усё магчымае для забеспячэння, перш за ўсё, пасяўной кампаніі з боку ўрада будзе рабіцца. Пэўныя матэрыяльныя рэсурсы накоплены, але іх будзе яўна недастаткова для правядзення веснавых работ на высокім узроўні.

Далейшае выкарыстанне бюджэтных сродкаў на падтрымку сельскай гаспадаркі стала нерэальным з-за росту бюджэтных расходаў на сацыяльныя патрэбы і аплату працы. Асноўнай крыніцай таму павінны стаць дадатковыя сродкі ад узросшых закупачных цэн на сельгаспрадукцыю.

### 4. БЮДЖЭТНАЯ СФЕРА

Крызісныя тэндэнцыі, што захоўваюцца ў эканоміцы, не далі магчымасці ў належным аб'ёме выканаць дзяржбюджэт. Паводле папярэдніх даных, даходы кансалідаванага бюджэту склалі 35,6 трлн.рублёў супраць 40,4 трлн.рублёў па ўдакладненаму плану, што склала 88 працэнтаў. Расходы прафінансаваны ў суме 38,7 трлн.рублёў пры плане 44,3 трлн.рублёў (87,3 працэнта), дэфіцыт бюджэту скараціўся з 3,2 працэнта па плану да 2,6 працэнта да валавога ўнутранага прадукту.

У 1995 годзе даходная частка бюджэту выканана з адставаннем па падатках на прыбытак, дабаўленую вартасць і акцызах. У прыватнасці, па падатку на прыбытак недаатрымана 2,9 трлн. рублёў, па акцызах — 776 млрд.рублёў, па ПДВ — 277 млрд. рублёў. Перавыкананы плануемыя паступленні мытных пошлін і збораў, а таксама дзяржпошліны і іншых непадатковых даходаў.

Недапаступленне даходаў прывяло да скарачэння аб'ёмаў фінансавання, прадугледжаных у бюджэце расходаў.

Аднак трэба сказаць, што невыкананне даходнай часткі выклікана перш за ўсё прадухіленнем дэвальвацыі нацыянальнай валюты ў запрагназіраваных памерах і больш нізкімі ў другім паўгоддзі 1995 года тэмпамі інфляцыі.

Выхад на прагнозныя паказчыкі прывёў бы да павелічэння паступленняў у бюджэт, але дадатковыя паступленні і расходы былі «з'едзены» ўзросшымі цэнамі на матэрыяльныя рэсурсы і паслугі.

Нельга абысці і запазычанасць, якая ўтварылася ў бюджэтнай сферы і на 1 студзеня 1996 года перавысіла 1,9 трлн.рублёў, у тым ліку па заработнай плаце 30,5 млрд.рублёў, капіталаўкладаннях — 231 млрд.рублёў, датацыях — амаль 402 млрд.рублёў, добраўпарадкаванню — 72,3 млрд.рублёў, розніцы ў цэнах — 213 млрд.рублёў.

Пагашэнне ўказанай запазычанасці не прадугледжана ў бюджэце бягучага года. Гэта сур'ёзным чынам ускладняе сітуацыю па выкананню бюджэту бягучага года.

Ужо неаднаразова дэпутатамі ўзнімалася пытанне аб памерах дэфіцыту бюджэту 1995 года. Праектам бюджэту дэфіцыт быў прадугледжаны ў памеры 3,2 працэнта ад валавога ўнутранага прадукту, фактычна ён склаў 2,6 працэнта. Выказваюцца сцвярджэнні аб быццам бы неабгрунтаваным выключэнні з эканомікі 660 млрд.рублёў.

Што я хачу сказаць? Размова ідзе аб пустых грашах ці аб інфляцыйным падатку, праз якія ўжо былі забраны аднойчы ўклады ў насельніцтва. Калі мы хочам паўтарыць сумны вопыт, давайце скажам аб гэтым адкрыта ўсяму народу. Да ведама магу сказаць, што грашовая маса на працягу мінулага года павялічылася з 6,8 да 15,6 трлн.рублёў.

Раней прапанаваныя вам даклад намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь С.С.Лінга, а таксама даклад міністра фінансаў П.У.Дзіка былі поўнасцю прысвечаны аналізу праекта бюджэту на 1996 год, а таксама падатковай палітыцы. Гэта дазваляе мне зэканоміць ваш час і не спыняцца на гэтых пытаннях спецыяльна.

Скажу толькі, што даходная і расходная часткі бюджэту былі складзены з улікам рэальных фінансавых магчымасцей дзяржавы. Дэфіцыт бюджэту вызначаны прыкладна на суму 5 трлн.рублёў і складае 2,7 працэнта ад валавога ўнутранага прадукту.

Для пакрыцця дэфіцыту дзяржбюджэту прадугледжваецца выкарыстоўваць унутраныя і знешнія крыніцы фінансавання, уключаючы крэдыты Нацыянальнага банка, МВФ, крэдыты еўрапейскага супольніцтва, а таксама выпуск дзяржаўных казначэйскіх абавязацельстваў.

У бягучым годзе трэба будзе выплаціць па абслугоўванню і пагашэнню крэдытаў, атрыманых пад дзяржаўныя праграмы і пад гарантыі ўрада, амаль 120 млн.долараў ЗША. З гэтай сумы пагашэнне асноўнага доўгу па крэдытах, атрыманых ад Германіі, — 46 млн. долараў. У тым ліку за Мінсельгасхарч — 14,2 млн.долараў, за Міністэрства аховы здароўя — 11,8 млн.долараў ЗША. Акрамя таго, пагашэнне працэнтаў па гэтых і іншых крэдытах складае 73,8 млн.долараў ЗША. У тым ліку па крэдытах Германіі за Мінсельгасхарч і Міністэрства аховы здароўя — 8,7 млн.долараў. Па крэдытах ЗША за Мінхлебапрадуктаў — 1,6 млн.долараў.

Урад па крэдытах, атрыманых ад Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, Міжнароднага валютнага фонду і краін-донараў (Італія, Бельгія, Японія) павінен выплаціць 34 млн.долараў ЗША ў якасці працэнтаў. Па крэдытах Расіі — 8,6 млн.долараў ЗША.

У працэсе абмеркавання праекта бюджэту ўрад гатоў выслухаць і ўважліва абмеркаваць любыя прапановы дэпутатаў, якія накіраваны на эканомію дзяржаўных сродкаў, на паслядоўную рэалізацыю прынцыпу разумнай дастатковасці.

А магчымасці для такой эканоміі ёсць. У сувязі з гэтым яшчэ раз закрану такую важную праблему, як расходы на папраўча-працоўныя ўстановы МУС. На 1996 год яны запланаваны на суму 488 млрд.рублёў. Пры гэтым месцы зняволення перапоўнены. Эфектыўнасць арганізаванага там выхаваўчага працэсу таксама добра вядомая.

Але справа нават не ў гэтым. Сёння ў нас такія законы, што ў турму можна трапіць за самую нязначную правіннасць. І замест таго, каб прыносіць карысць сям'і і грамадству, мы саджаем дзесяткі тысяч лішніх едакоў на казённыя харчы. Яны ж, прайшоўшы турэмныя універсітэты, становяцца вопытнымі злачынцамі.

У 1995 годзе на 100 тысяч чалавек прыпадала: у Германіі — 73 зняволеныя, Венгрыі — 126, Малдове — 272, Эстоніі — 285, Украіне — 292, у Беларусі — 407 зняволеных.

Папраўча-працоўныя ўстановы дрэнна забяспечаны работай. Вывад адзін: трэба пераглядаць дзеючае заканадаўства, больш рацыянальна выкарыстоўваць дзяржаўныя сродкі.

Значныя рэзервы для эканоміі ёсць у мясцовых бюджэтаў. Тут вельмі слаба выкарыстоўваюцца магчымасці па забеспячэнню самафінансавання мясцовых расходаў, што яшчэ не стала па-сур'ёзнаму хваляваць мясцовыя ўлады.

Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета!

Я імкнуўся адкрыта абмаляваць становішча ў эканоміцы. Яно надзвычай складанае, і вы самі аб гэтым добра ведаеце. На працягу апошніх пяці гадоў у нас зніжаюцца аб'ёмы вытворчасці, не абнаўляюцца ў належнай ступені вытворчыя фонды. Недзе мы нават прадаем нацыянальны капітал.

Не магу не адзначыць таксама, што збоі функцыянавання народнай гаспадаркі ў многім прадвызначаны недасканаласцю наяўнай заканадаўчай базы. Наш рух наперад сёння ў вельмі вялікай ступені залежыць ад сумесных і скаардынаваных намаганняў выканаўчай і заканадаўчай улады.

Так, становішча крайне складанае. Але не безнадзейнае. Яно цалкам кіруемае. І ў гэтым пераконвае цяперашняя суровая зіма. Такога працяглага перыяду моцных маразоў не было сама меней гадоў дзесяць. Аднак жыллёва-камунальная сфера функцыянуе ў нас без сур'ёзных збояў. Насельніцтва ў большасці сваёй не адчувае сур'ёзных нязручнасцей. Дзеці ходзяць у школу, нармальна функцыянуе ўся сацыяльная сфера.

Праўда, цяжка прыходзіцца многім прадпрыемствам, якія эканомяць энергарэсурсы. Але ўсе гэтыя страты рабочага часу цалкам можна кампенсаваць у летні перыяд.

Ва ўрада няма сумнення ў тым, што сумеснымі намаганнямі можна рашуча пераламаць негатыўныя тэндэнцыі і ўвайсці ў паласу эканамічнага росту.

Дзякуй за ўвагу.

## НАЗНАЧЭННІ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў шэраг указаў аб назначэннях.

**Будай** Анатоль Іванавіч назначаны першым намеснікам міністра сувязі і інфарматыкі. Ён вызвалены ад пасады намесніка міністра.

**Пакрышка** Любоў Міхайлаўна назначана намеснікам міністра сувязі і інфарматыкі.

**Шаршавіцкі** Міхаіл Васільевіч назначаны намеснікам міністра спорту і турызму.

**Тарасевіч** Георгій Васільевіч назначаны намеснікам міністра фінансаў.

**Галаванаў** Віктар Рыгоравіч назначаны намеснікам міністра юстыцыі.

**Паўла**ў Валерый Іванавіч назначаны першым намеснікам міністра працы. Ён вызвалены ад пасады намесніка міністра.

**БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ЮГАСЛАВІІ НАВЕДАЕ БЕЛАРУСЬ У САКАВІКУ

**Урадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Леанідам Сініцыным 7—9 лютага наведала Бялград.**

Дэлегацыя была прынята Прэзідэнтам Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Зоранам Лілічам, прэм'ер-міністрам Радое Концічам, правяла перагаворы ў міністэрствах замежных спраў, эканомікі, а таксама ў Гандлёва-прамысловай палаце СРЮ.

У час сустрэчы з членамі беларускай дэлегацыі прэзідэнт Зоран Ліліч даў станоўчую ацэнку ходу рэформ у Беларусі, ініцыятывам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў сферы міжнароднай палітыкі і барацьбы супраць распаўсюджвання ядзернай зброі.

Прэзідэнт, іншыя афіцыйныя асобы Югаславіі выказалі падзяку народу Беларусі, кіраўніку беларускай дзяржавы, грамадскім арганізацыям за падтрымку Югаславіі ў цяжкія для яе гады. З. Ліліч выказаў цвёрды намер СРЮ развіваць узаемавыгаднае гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва, навуковыя і культурныя сувязі з Рэспублікай Беларусь, праводзіць рэгулярныя кансультацыі па пытаннях міжнароднай палітыкі з тым, каб Беларусь і СРЮ сталі фактарамі стабільнасці і міру як у сваіх рэгіёнах, так і ў Еўропе ў цэлым.

У ходзе праведзеных перагавораў былі таксама ўзгоднены тэрміны афіцыйнага візіту Прэзідэнта Саюзнай Рэспублікі Югаславіі З.Ліліча ў Беларусь, які адбудзецца ў сакавіку бягучага года. Югаслаўскі бок выказаў зацікаўленасць і ў правядзенні афіцыйнага візіту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Бялград у бягучым годзе.

**БЕЛТА.**

## У БАРЫСАЎСКІМ РАЁНЕ ПАСТРАЛЯЛІ ЗУБРОЎ

**Упершыню за апошнія некалькі гадоў у Барысаўскім раёне зарэгістраваны факт браканьерства ў дачыненні да зуброў. Падзея тым больш надзвычайная і прыкрая, што ад рук злачынцаў загінулі адразу два лясныя гіганты — самкі 7-8 гадоў.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» намеснік загадчыка ўпраўлення лясной і паляўнічай гаспадаркі Мінлясгаса Віктар Карогвіч, забойства зуброў адбылося на тэрыторыі Барысаўскага лясгаса. 14 студзеня гэтага года ляснік Зембінскага лясніцтва знайшоў у 98-м квартале ляснога масіву некрануты труп зубра. На месца хутка выехала камісія ў саставе супрацоўнікаў лясгаса і праваахоўных органаў. Пасля анатаміравання ў целе жывёлы знайшлі кулю. Па адной з версій, выпушчана яна магла быць з армейскага аўтамата Калашнікава. Для атрымання больш дакладнага адказу яна была адпраўлена ў Мінск на крыміналагічную экспертызу. Як засведчылі спецыялісты, з такім раненнем лясны прыгажун мог пражыць 3-4 дні.

20 студзеня той жа ляснік (на ўсякі выпадак вяліся пошукавыя работы) у 99-м квартале ўсё таго ж ляснога масіву знайшоў рэшткі яшчэ аднаго зубра. У адрозненне ад першага, гэты быў пасечаны на кавалкі, у некалькіх месцах з тушы зрэзана мяса. Хаця шкура, галава, язык засталіся на месцы гібелі жывёлы. Рэдкія сляды паказвалі, што потым мяса вынеслі на дарогу Зембін—Барысаў, дзе, хутчэй за ўсё, злачынцаў-браканьераў чакаў аўтатранспарт. З чаго забілі гэтую самку, устанавіць не ўдалося. Але на падставе папярэдніх даных можна меркаваць, што па абодвух зубрах стралялі ў адзін дзень, прычым, верагодна, у начны час. Як вядома, зубры не такія баязлівыя, як, напрыклад, алені, і могуць падпусціць людзей да сябе досыць блізка. У мяркуемы час забойства быў поўны Месяц і статак пры жаданні можна было заўважыць або знайсці вельмі лёгка. Па факту браканьерства ўзбуджана крымінальная справа.

Нагадаем чытачам, што барысаўская папуляцыя зуброў існуе ў Беларусі з 1974 года. З 1975 года яна «прапісалася» ў Зембінскім лясніцтве. На працягу гэтых гадоў рэгістраваліся толькі факты выпадковай гібелі жывёл ад хімікатаў ці ў дарожна-транспартных здарэннях, або адзінкавыя выпадкі браканьерства. Рэшткі апошняга забітага злачынцамі зубра былі знойдзены ў лясніцтве ў 1988 годзе. Дарэчы, мяса тады не чапалі. І вось нечая рука ўзнялася на лясных прыгажуноў... Па словах В. Карогвіча, статак, а гэта 34 зубры, адчувае сябе добра. Штодзень за ім назіраюць спецыялісты мясцовага лясгаса, вядуць дзённік перамяшчэння жывёл, падкормліваюць.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ: ЗАРАБІЦЬ

**Дзе ўзяць грошы? Грошы не на прыгожае жыццё, а хоць бы на нештаватае існаванне. Вядома, кожны выкручваецца па-свойму: адны сядзяць у ларках, другія робяць шоп-туры ў суседнія краіны. Ну а што рабіць маладым?**

**Вядома, існуюць цэнтры занятасці насельніцтва, але туды па дапамогу мала хто звяртаецца. Таму ўсё большая колькасць людзей кідаюць свае позіркі на нетрадыцыйныя метады атрымання грошай. Прыметай нашага часу сталі гандляры семкамі, «апальнымі» газетамі, кантрабанднымі цыгарэтамі і спіртнымі напоямі.**

Аднойчы знакаміты расійскі кінарэжысёр Мікіта Міхалкоў сказаў, што лусканне семак — гэта не спосаб бавіць вольны час, гэта стыль жыцця. А разумныя беларусы ўзялі гэта на ўзбраенне і на ўсю моц рэкламуюць стыль «ад Міхалкова». Іншаземец даўно зрабіў бы цікавую выснову: уся тэрыторыя суверэннай Беларусі засеяна сланечнікам і нічым іншым.

Я таксама вырашыў на нейкі час ператварыцца ў гандляра семкамі. Сабраў апошнія грошы і набыў некалькі кілаграмаў сырых семак. Дома старанна іх падсмажыў і, нарабіўшы кулькоў са старых газет, пайшоў на мясцовы базар. Асаблівай канкурэнцыі з такім таварам няма, але мае часовыя суседзі — бабулькі-пенсіянеркі — глядзелі на мяне, як салдаты на вош.

Прыстроіўшыся паміж імі і паглядзеўшы на іх цэны (у першай — 2,7 тысячы за вялікую і 1,7 — за маленькую шклянку, у другой — 2,5 тысячы за вялікую і 1,5 — за маленькую адпаведна), я вырашыў, што найлепш тут будзе залатая сярэдзіна, і прызначыў сваю цану: 2,6 тысячы — за вялікую шклянку і 1,6 — за маленькую. Не ведаю чаму, але ў маіх канкурэнтак гандаль ішоў лепш: за тры гадзіны адна прадала мех і другая прыблізна столькі ж. Можа, мае семкі былі дрэнна падсмажаны ці я іх дрэнна рэкламаваў? Прастаяўшы на траскучым марозе тры гадзіны і зарабіўшы ўсяго 20 тысяч «зайцоў», я вырашыў: хопіць, хай згіне гэты бізнес! І пайшоў дамоў.

Як жа хапае сіл і здароўя ў састарэлых жанчын стаяць на марозе? А чаму б і не, калі за дзень яны зарабляюць часам да 300 тысяч рублёў. Калі трошкі пацяплела, я вырашыў пайсці другім шляхам — гандляваць газетамі. Адзін мой знаёмы, які мае вялікі вопыт у гандлі такога кшталту, параіў: «Ні ў якім разе не гандлюй на вакзале: там свая сістэма — усё падзелена на зоны ўплыву, даніну бяруць усе, хто не лянуецца. Гандлюй лепш на вуліцах, там больш бяспечна. А зусім ідэальны варыянт — на перыферыі: там ніхто не чапае і тавар хутка разыходзіцца. Той жа знаёмы сказаў, дзе людзі набываюць газеты.

На наступны дзень я прыйшоў па названаму адрасу і набыў тры дзесяткі экземпляраў апальных газет па цане на 1—1,5 тысячы танней, чым іх прадаюць на вуліцах. Ну, а потым паехаў у сваё роднае Уручча, стаў на тым самым базары, дзе тыдзень таму гандляваў семкамі, і яшчэ раз паспрабаваў зарабіць грошы.

Трэба сказаць, што гандаль газетамі ішоў куды лепш, чым семкамі. Але як толькі я трохі акупіў свае затраты, аматары чытаніны пачалі сустракацца ўсё радзей і радзей. І праз дзве гадзіны я пайшоў дадому.

Кажуць, што ёсць мноства спосабаў зарабіць вялікія грошы. Не ведаю, як наконт астатніх, а пры выкарыстанні двух з гэтага мноства я пацярпеў фіяска. Зараз сяджу дома на канапе, лускаю семкі і чытаю газеты, якія былі надрукаваны месяц таму. Часам думаю аб трэцяй спробе, ды толькі не ведаю, за што ўзяцца.

**Ягор МАЁРЧЫК.**

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 6 (25)




*ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ «ЗВЯЗДЫ»!*

*Усяго за **20.000 рублёў** Вы можаце павіншаваць праз газету сваіх родных, сваякоў, знаёмых, сяброў з днём нараджэння ці з іншай знамянальнай падзеяй у іх жыцці, альбо даць аб'яву некамерцыйнага зместу.*

*Аплата наяўнымі або па пошце. Усе даведкі можна атрымаць па тэлефонах: **68-28-71; 32-04-52.***

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТРАНСПОРТ** | | | |
| Запчасти к М-412, ГАЗ-53, 2410, Т-25, Т-40 | | Организация | (0222) 25-00-00 |
| **ДЛЯ ФЕРМЕРА И ДАЧНИКА** | | | |
| Мини-трактор МТЗ-082 | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Мотоблоки МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Мотокультиваторы «Крот» с комплектом с/х орудий | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Комплекты с/х орудий к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Картофелекопатели к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | (0172) 76-85-85 |
| Плёнка «Спанбонд» для грядок и парников. Срок эксплуатации 3-4 года. | Договорная | Организация | Тел. в Полоцке (02144) 4-47-26 (0172) 76-85-85 |
| **ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ОБОРУДОВАНИЕ** | | | |
| Оборудование для АЗС: колонки, пульты управления, запчасти | | ЗАО «Опика» | (01773) 5-49-61, 6-44-21 |
| Монтаж, наладка, запуск АЗС | | ЗАО «Опика» | (01773) 5-49-61, 6-44-21 |
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звезд (8—15 дней) | от 505$ | ТехноСтар | (0172) 39-47-14 |

*Рэкламу „Кірмашы" — шлях да поспеху ў Вашай справе!*

## ПЕРЕЧЕНЬ РУБРИК ДЛЯ СТРОЧЕЧНОЙ РЕКЛАМЫ

1. *Недвижимость, строительство.*
2. *Финансы.*
3. *Транспорт.*
4. *Сырье.*
5. *Для фермера и дачника.*
6. *Производственное оборудование.*
7. *Оргтехника.*
8. *Оборудование для офиса и дома.*
9. *Предметы потребления (одежда, обувь и т.д.).*
10. *Работа, услуги.*
11. *Продовольствие.*
12. *Домашние животные и растения.*
13. *Туризм и отдых.*

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках на 12 лютага 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | інфармацыя на 9.50 не атрымана | | | | | | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | інфармацыя на 9.50 не атрымана | | | | | | |
| Белзнешэканомбанк | 11700 | 12000 | 7750 | 8300 | 2.30 | 2.50 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11800 4780 | 11950 4880 | 7900 | 8100 | 2.44 | 2.52 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11700 | 12000 | 7700 | 8000 | 2.10 | 2.50 | 372-826 |
| Народны банк | 11800 | 12100 | 7900 | 8200 | 2.35 | 2.50 | 238-610 |
| «Алімп» | 11850 | 12100 | 8950 | 8200 | 2.45 | 2.56 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11800 | 12000 | 7800 | 8100 | 2.35 | 2.48 | 291-646, 067 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7766.60 | | 2.43 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4738 | | 3201.14 | | 100 бел.р. 38.90 | | |

*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах

*Агенцтва Граўцова*

КЛУБ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ

**Герберт Ньютан КЭСАН**

# АКСІЁМЫ БІЗНЕСУ

Самыя галоўныя словы ў гэтай аксіёме — вынік і ўтрыманне. Яны падказваюць вам, што ў сабекошт уваходзіць і кошт асобных дробязей і што першапачатковы расход цягне за сабой іншыя.

У бізнесе крайне важна ўменне ўстанавіць, падвесці поўны падрахунак асобных сабекоштаў.

Спачатку трэба ведаць (што няцяжка) ранейшыя цэны, затым існуючыя цяпер цэны (што яшчэ лягчэй) і, нарэшце, меркаваць, якімі яны будуць у будучыні.

Адсюль вы бачыце неабходнасць пастаяннага, дакладнага і поўнага вывучэння пытання аб сабекошце. Тут нельга спыняцца на чым-небудзь прыблізным.

Факты трэба замяняць лічбамі, а лічбы — ведамасцямі, справаздачамі.

Толькі тады прамысловца ці камерсант будзе адчуваць, што трымае справу ў сваіх руках, калі кожны панядзелак да 12 гадзін будзе атрымліваць ведамасці за мінулы тыдзень кожнага аддзела свайго прадпрыемства.

Калі крывая ведамасці аддзела ўзнімаецца, то, такім чынам, усё добра. Калі крывая падае — ёсць небяспека. Трэба за гэтым аддзелам пільна сачыць, даць яму падмацаванне.

І не можа быць іншай праблемы, акрамя вечнай праблемы пастаяннага змяншэння сабекошту.

## ДЗЕСЯТАЯ АКСІЁМА
### Да падліку прыбыткаў неабходна падлічыць агульныя расходы

Апошнім узнагароджанне атрымлівае бізнесмен...

Бізнесмен стаіць ля ніжняй прыступкі лесвіцы, хоць гэта ён смела бярэцца за справу без гарантыі ўзнагароджання і выпрабоўвае на ёй сваё шчасце.

Замест таго, каб быць разбойнікам, як яго апісваюць некаторыя наіўныя тэарэтыкі, ён падтрымлівае фундамент міру.

Сапраўды, усе яго пастаянна дакараюць, а пакуль... кожны лазіць па яго кішэнях.

Бізнесмен задумаў грандыёзны праект. Ён ставіць яго на ногі, аддае яму свае грошы, аплачвае рабочыя рукі, узнагароджвае ўсіх асоб, якія дапамагаюць яму, плаціць усе падаткі. Ён рызыкуе з-за розных выпадковасцей, аварый з параходамі, забастовак і пажараў. Ён дапамагае жыццю шматлікіх людзей, якія зусім індыферэнтна ставяцца да лёсу яго прадпрыемства. І, толькі заплаціўшы ўсім, атрымлівае сам, калі наогул яшчэ... што-небудзь застаецца!

Вельмі часта бізнесмену застаюцца адны аб'едкі, іншы раз не застаецца нічога. Часта таксама яго грошы патрачаны, і вось тады мы адчуваем правільнасць нашай дзесятай аксіёмы.

Да падліку прыбыткаў неабходна падлічыць агульныя расходы.

Дазвольце вам растлумачыць вышэйсказанае на адным прыкладзе. Том Ход, ігрок у футбол, зламаў сабе нагу і пачаў кульгаць. Паколькі ён карыстаўся вялікай папулярнасцю, то яго добразычліўцы зрабілі падпіску, сабралі 1000 долараў і купілі яму камерцыйную справу — тытунёвы магазін.

З самага адкрыцця магазіна да яго з'явіліся пяцёра яго сяброў і купілі па цыгары. Том вырашыў, што справы яго ідуць добра, і сам пачаў курыць шостую цыгару. Праз шэсць месяцаў ён прагарэў, і тады ён спытаў у сябе: чаму? Ён проста не ведаў, што пры продажы шасці цыгар першыя чатыры ішлі на плату цыгарнай фабрыцы за тытунь, кошт пятай ішоў на плату домаўладальніку, зборшчыку падаткаў, газаваму таварыству і г. д. І толькі кошт шостай цыгары ішоў яму як прыбытак яго бізнесу.

Поспех у бізнесе заключаецца не ў вытворчасці добрага тавару, нават не ў вялікіх абаротах, не ў вялікай колькасць службовага персаналу. Поспех бачны з таго, застаецца што-небудзь у канцы года ці не.

Галоўнае слова ў камерцыйных справах не брута, а нета.

Павелічэнне прыбытку-нета і з'яўляецца той мэтай, якую праследуе «Мастацтва прадукцыйнасці». Калі мэта гэта дасягнута — поспех справы відавочны.

Калі чыгуначная кампанія, прамысловае прадпрыемства або магазін заўважаць, што ў працэнтных адносінах прыбытак-нета змяншаецца, то яны ўжо папярэджаны: іх бізнес — у небяспецы. Змяншэнне прыбытку-нета ў камерцыйным прадпрыемстве тое ж самае, што боль у чалавечым целе, які дае знаць аб ране, якой-небудзь хваробе...

Ні гады, ні веліч не гарантуюць нам бяспекі... Наадварот, яны нясуць з сабой марнатраўства і бяспечнасць, якія цягнуць за сабой у сваю чаргу іншы раз і разарэнне. Не колькасць, а якасць адыгрывае ролю.

Дапатопны дыназаўр быў вялікіх памераў... ён — бясследна знік. Цела яго важыла 4000 фунтаў, мозг жа — толькі адзін. Ён загінуў, таму што не быў створаны для працяглага існавання. Чалавек — маленькая істота, але яго мозг важыць 4-5 фунтаў, і таму ён перажыў дыназаўра.

## АДЗІНАЦЦАТАЯ АКСІЁМА
### Чым больш рызыкі, тым большым павінен быць і прыбытак

У бізнесе няма поўнай бяспекі.

Рызыку нельга знішчыць — яе можна толькі зменшыць.

Рызыка бывае рознай ступені, і ў сілах чалавечых з вялікай рызыкі зрабіць невялікую. Нічога іншага і не трэба патрабаваць у нашым трагічным свеце.

Камерсант не можа быць і не будзе ніколі дасканалым, ён не можа ведаць усяго і ніколі не зробіцца паўбогам. Ён заўсёды будзе толькі чалавекам.

Колькі маладых людзей не зрабілі кар'еры толькі з-за таго, што былі вельмі самаўпэўненымі! Іх не навучылі змагацца з рызыкай, а толькі — пазбягаць яе. Яны хапаюцца за першае прапанаванае ім месца, якім бы нікчэмным яно ні было, і ўсё сваё жыццё праводзяць на варце перад мышынай нарой, таму што ім не сказалі, што з нары нічога іншага не можа выйсці, як толькі... простая мыш.

Рызыка неабходна.

Бізнес зусім не з'яўляецца тым, што пра яго думаюць некаторыя чытачы і прафесары, гэта значыць аперацыяй па набыцці па таннай цане для продажу па дарагой.

*(Заканчэнне будзе.)*

---

***Працяг. Пачатак у нумарах за 27 снежня, 9, 16, 23 і 30 студзеня.***

НАТАТКІ З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАРАДЫ

# АГРАПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС: АДЗНАЧАНА ЗНІЖЭННЕ, КІРАЎНІКІ «АЗАДАЧАНЫ...»

**Як паведамлялася ўжо, Адміністрацыя Прэзідэнта і Кабінет Міністраў правялі рэспубліканскую нараду, на якой былі разгледжаны вынікі работы аграпрамысловага комплексу ў 1995 годзе і задачы на цяперашні год.**

Вядома ўжо, што становішча ў сельскай гаспадарцы рэспублікі, аграпрамысловым комплексе ў цэлым далёка не бліскучае, яно характарызуецца прыкладна тымі ж з'явамі, якія напаткалі ўсю эканоміку рэспублікі ўвогуле. Зніжэнне вытворчасці асноўных відаў прадукцыі, рэзкае падзенне аддачы зямельных угоддзяў і прадукцыйнасці жывёлы, змяншэнне яе пагалоўя, страта абаротных сродкаў і старэнне фондаў — вось далёка не ўсе тыя «вынікі», якімі вызначаецца дзейнасць гэтага комплексу. Віцэ-прэм'ер У. Гаркун і міністр сельскай гаспадаркі і харчавання В. Лявонаў прывялі нямала несуцяшальных лічбаў. Адначасова з падзеннем аб'ёмаў расце ў сельскай гаспадарцы крэдыторская запазычанасць (на 1 студзеня яна склала каля 3 трыльёнаў рублёў), каля 15 гаспадарак — стратныя, пры гэтым нямала ў якіх гаспадарках валавы даход перавышаецца колькасцю налічанай зарплаты (варта тут жа ўдакладніць: у многіх выпадках налічанай, але не выплачанай. Крызіс з выплатамі зарплаты ў сельскай гаспадарцы яшчэ больш востры, чым у прамысловасці). Адначасова ж растуць выдаткі на адзінку прадукцыі, сабекошт і, адпаведна, яе рознічная цана ў магазіне. Цэны на айчынную прадукцыю пачынаюць упэўнена пераўзыходзіць сусветныя. Напрыклад, ужо вядома, што кошт завозімага да нас імпартнага масла ніжэйшы, чым айчыннага (зрэшты, такія прыклады можна прадоўжыць: прыгадаем гісторыю з больш таннымі імпартнымі курынымі кумпячкамі, якія пасьяхова выганяюцца з нашага рынку на радасць нашым вытворцам адпаведнай прадукцыі, але далёка не на радасць спажыўцам). Пры ўсім гэтым, як падкрэслівалася на нарадзе, сельская гаспадарка патрабуе новых фінансавых уліванняў. Што прапануецца для яе пад'ёму, аграпрамысловага комплексу ў цэлым?

Прэзідэнт А. Лукашэнка паставіў на нарадзе задачу: забяспечыць сёлета 2-3 працэнты прыросту, і пры гэтым ніякіх спасылак на абставіны не павінна быць, трэба забяспечыць нават «праз не магу»... На нарадзе нярэдка гучала наконт кадраў («галоўнае пытанне сёння»), а таксама наконт удасканалення эканамічнага механізма, наконт дысцыпліны і адказнасці, увядзення 2-3 паказчыкаў заданняў, праграмы вытворчасці ўласных кармоў, вытворчасці фуражнага збожжа, знаходжання сродкаў на мінеральныя ўгнаенні, якіх, вядома ж, неабходна ўносіць больш, на авансаванне збожжа, наконт будаўніцтва на вёсцы і г.д. На нарадзе было таксама сказана адносна рэфарміравання аграпрамысловага комплексу і развіцця ў ім розных формаў уласнасці (з абавязковым акцыяніраваннем перапрацоўчых прадпрыемстваў), аднак пры гэтым падкрэслівалася, што развалу калгасаў і саўгасаў не будзе, «таму што не выпрацавалі альтэрнатывы», адзначана неабходнасць пераходу да кропкавых фінансавых уліванняў— пераважна тым гаспадаркам, якія прыносяць аддачу, і замарожвання ўсіх даўгоў, выказвалася думка наконт таго, каб у кожным раёне адной-дзвюм гаспадаркам даць максімальную эканамічную свабоду... Вядома, з тым, каб паглядзець і параўнаць...

Між тым, можна канстатаваць, што ў рэспубліцы далёка не дастаткова дакладна вызначана эканамічная стратэгія адносна далейшага развіцця сельскай гаспадаркі і найперш — адносна формаў гаспадарання, формаў уласнасці ў ёй, што не лепшым чынам уплывае і на тое ж становішча. Відавочна, што найперш дзейнасць усіх гаспадарак варта было б заснаваць на максімальнай рынкавай аснове (дарэчы, не выключаючы дзяржаўную падтрымку, але звёўшы яе да мэтазгоднага мінімуму). Падобныя думкі выказваліся на нарадзе, але хутчэй — між іншым. А такая скіраванасць, відаць, нарэшце зняла б і пытанне наконт таго, што мы маем у адносінах «сельская гаспадарка — прамысловасць» — парытэт цэн ці іх дыспарытэт? Хоць на нарадзе і прагучала, што, маўляў, няма ў нас ніякага дыспарытэту, але такое меркаванне наўрад ці супакоіць сельскагаспадарчых спецыялістаў, наўрад ці пагодзяцца яны з ім. Поўную яснасць у гэта пытанне могуць унесці менавіта рынкавыя адносіны — і найперш максімальная свабода гаспадарак у вызначэнні цэн на сваю прадукцыю (у нас закупачныя цэны, па сутнасці, па-ранейшаму прызначаюцца зверху).

А пакуль што, разам з прызнаннем рэфарміравання аграпрамысловага комплексу, робіцца яўны ўхіл на адміністрацыйна-сілавыя метады вырашэння праблем, на «азадачванне», якое было гэткім характэрным для ранейшага часу. Дарэчы, ужо пра многае гаворыць рэпліка Прэзідэнта ў адрас удзельнікаў нарады наконт таго, што сёння ў іх улады больш, чым пры ранейшым таталітарным рэжыме... Думаецца, галоўны клопат, з якім «азадачаныя» ўдзельнікі пакідалі залу, быў наступны: як забяспечыць прадыктаваныя зверху 2-3 працэнты прыросту? Асабліва ў святле ўзмацнення работы з кадрамі і тых лічбаў кадравых змен, якія былі агучаны... Між іншым, падобная жорсткая пастаноўка пытання (наконт працэнтаў) можа вярнуць да жыцця ранейшыя прыпіскі. Яны, мяркуючы па выступленні кіраўніка службы кантролю М. Дамашкевіча, сям-там ужо з'явіліся.

Увогуле, азадачванне, магчыма, таксама патрэбна. Асабліва напярэдадні сяўбы. Але доўгатэрміновага стабільнага выніку чакаць ад яго нельга. Наконт гэтага ўжо пэўным чынам сведчыць і навейшы, кебічаўскі вопыт: азадачванне таксама было, ды нестае належных вынікаў. Без рэфарміравання эканамічных адносінаў у сельскай гаспадарцы (прычым гэта не абавязкова павінна быць фермерызацыя, гэта ж ніколькі не выключае і адпаведнага павышэння дысцыпліны і адказнасці, пра якія так часта і так шмат гаворыцца, толькі яны будуць грунтавацца на іншай, больш трывалай аснове, а не на аснове загаду і боязі), рэфарміраванне яе ўзаемаадносінаў з дзяржавай нам усё роўна не абысціся. Дарэчы, ёсць праект адпаведнай праграмы па рэфарміраванню аграпрамысловага комплексу. Шкада будзе, калі яе напаткае лёс іншых праграм.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

СПОРТ-ЭКСПРЭС

Біятлон

## «БРОНЗА» — НА ФІНІШЫ

**Вянцом чэмпіянату свету па біятлону, які пазаўчора завяршыўся ў невялічкім баварскім гарадку Рупольдынгу, сталі эстафетныя гонкі 4 х 7,5 км. Першымі выйшлі на старт жанчыны.**

Безумоўна, фаварыткамі лічыліся расіянкі, якія ўжо мелі тут золата і серабро; гаспадыні чэмпіянату, што паспелі стаць чэмпіёнкамі ў камандных гонках, ну і вядома ж зборная Францыі, уся ўсыпаная зоркамі жаночага біятлона. Беларусы каціраваліся таксама даволі высока, што і пацвердзілася ў ходзе эстафеты. Дзве Наталлі — Пермякова і Рыжанкова — выдатна прайшлі першыя этапы і прывезлі Святлане Бялан месца ў тройцы лідэраў. Аднак маладая беларуская біятланістка, відаць, не вытрымала напружання. Святлане Парамыгінай ужо не пад сілу было ліквідаваць адставанне ад галоўных дзеючых асоб — зборных Германіі, Францыі і Нарвегіі.

Для беларускіх дзяўчат гэты чэмпіянат атрымаўся вельмі няўдалым, аб чым сведчыла пустая скарбонка пасля заканчэння ўсіх чатырох дыстанцый. Затое мужчыны, як ніколі, выступілі ўдала. Квартэт у саставе Аляксея Айдарава, Вадзіма Сашурына, Алега Рыжанкова і Аляксандра Папова на працягу амаль усёй дыстанцыі след у след ішоў разам з лідэрамі-расіянамі. На хвост беларусам на трэцім этапе пачалі наступаць немцы. І тым не менш на заключны этап Аляксандр Папоў пайшоў другім і адстраляўся чыста, у той час як Свен Фішар «матаў» адзін лішні круг. Аднак стаерскія здольнасці вядомага германскага біятланіста аказаліся намнога вышэйшымі, чым у беларуса. Ён змог не толькі ліквідаваць адрыў у 24 секунды, але і значна апярэдзіць мінчаніна на фінішы. А першае месца заваявалі расіяне, якія ў агульнакамандным заліку таксама сталі мацнейшымі.

На рахунку беларусаў тры ўзнагароды: «золата» і дзве «бронзы». Трэба аддаць належнае мужчынам, якія ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі дастойна выглядалі ў вачах балельшчыкаў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**P. S.** Як стала вядома, беларускіх біятланістаў пасля вяртання з Рупольдынга збіраецца прыняць Прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка.

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# У АПК ПА-РАНЕЙШАМУ НЯМА ДЫСЦЫПЛІНЫ І ПАРАДКУ

***Сельскую гаспадарку, якая сёння знаходзіцца ў вельмі цяжкім становішчы, «рэжуць» не толькі цэнавыя «нажніцы». Апроч праблемы парытэту цэн на сельгаспрадукцыю, прадпрыемствы аграпрамысловага комплексу зараз пакутуюць яшчэ і ад зладзеяў.***

***За мінулы год у сферы АПК супрацоўнікамі службаў па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю выяўлены 3963 злачынствы. Да крымінальнай адказнасці прыцягнута больш як 4300 чалавек, з якіх 53 — кіраўнікі прадпрыемстваў, 730 — іншыя матэрыяльна адказныя асобы.***

***Больш падрабязна расказаць аб злачынствах, якія ўчыняюцца на прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу, карэспандэнт «Звязды» папрасіў начальніка аддзела УБЭЗ Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Аляксандра ЯЦКОЎСКАГА.***

**— Аляксандр Трафімавіч, якія віды эканамічных злачынстваў найбольш распаўсюджаны на прадпрыемствах АПК?**

— Калі ўлічваць толькі колькасны паказчык, то самы тыповы вясковы злачынца — гэта так званы «нясун». Гэта заганная звычка засталася ў многіх калгасах і саўгасах яшчэ з сацыялістычных часоў. Аднак памер урону, які наносіць звычайны селянін, што ўкраў мех бульбы, мізэрны ў параўнанні са стратамі, якія церпяць многія гаспадаркі ад прайдзісветаў-кіраўнікоў. Апошнія крадуць мільёны рублёў. Прычым злачынцы кіруючага звяна куды больш «вынаходлівыя», чым іх падначаленыя, і выявіць такія злоўжыванні падчас бывае вельмі нялёгка.

Вось толькі некаторыя самыя яскравыя прыклады.

У Дзятлаўскім раёне дырэктар камбіната хлебапрадуктаў сумесна з бухгалтарам, склаўшы фіктыўныя дамовы, укралі каля 2 мільярдаў рублёў.

Галоўны бухгалтар Мінскага гармалзавода №1 таксама праявіў «вынаходлівасць» і, унёсшы лжывыя звесткі ў дакументы на атрыманне таварна-матэрыяльных каштоўнасцей, украў больш як 100 мільёнаў рублёў.

Начальнік Івацэвіцкага раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча, аформіў фіктыўныя камандзіроўкі за мяжу і прысвоіў больш як 3000 долараў.

Апошнім часам ва ўсходніх раёнах Беларусі назіраецца масавы вываз жывёлы і мясамалочных прадуктаў у Расію без атрымання адпаведнага дазволу Мінсельгасхарча, што таксама выклікае вялікую занепакоенасць.

**— Чаму? Ці не дзеля гэтага былі зняты мытныя межы з Расіяй? Гаспадаркі, якія экспартуюць мяса ў Расію, відавочна, маюць ад гэтага вялікую выгаду.**

— Праблемы не існавала б, каб усё гэта адбывалася па ўстаноўленай нашым урадам схеме: хочаш экспартаваць мяса ў Расію — бяры адпаведны дазвол у Мінсельгасхарчы і вязі. Зараз жа многія гаспадаркі пайшлі незаконным шляхам: карыстаючыся адсутнасцю нават мытных пастоў з Расіяй, вывозяць жывёлу і прадаюць за наяўныя грошы. Падобная практыка з наяўнымі, як вядома, дазваляе кіраўнікам з лёгкасцю прысвойваць немалыя сумы грошай. Выявіць такія махінацыі вельмі цяжка. Да таго ж незаконны экспарт наносіць урон цэлым прыгранічным абласцям Беларусі. Напрыклад, ветэрынарны ўрач акцыянернага таварыства «Стасева» Лёзненскага раёна здаў на Лакснянскі харчкамбінат Пскоўскай вобласці 134 адзінкі буйнарагатай жывёлы. Атрымаў за гэта наяўныя грошы і прысвоіў сабе больш 33 мільёнаў расійскіх рублёў.

Хутка можа здарыцца, што у магазінах Віцебска ці Магілёва не будзе айчыннага мяса, альбо будзем вымушаны імпартаваць свае ж мясапрадукты з Расіі, праўда, ужо па больш высокіх цэнах. Таму, на маю думку, варта давесці да гаспадарак практыку дзяржзаказаў, каб калгасы і саўгасы экспартавалі сваю прадукцыю толькі пасля насычэння ўнутранага рынку.

**— Але ж гэта эканамічны дыктат. Не разумею, навошта забараняць гаспадаркам вывозіць мяса ў Расію і прадаваць на больш выгадных умовах, чым сваім айчынным мясакамбінатам, якія не могуць канкурыраваць?**

— Магчыма, калі кіравацца фармальным законам рынку, то трэба было даць беларускім сельскім экпарцёрам поўную волю. Але ж трэба ўлічваць і тое, што беларускія калгасы і саўгасы атрымліваюць ільготныя крэдыты з бюджэту нашай, а не расійскай дзяржавы, таму найперш трэба ўлічваць айчынныя інтарэсы.

Дарэчы, прапанаваны мною спосаб барацьбы з неліцэнзійным вывазам мяса ў Расію, мажліва, не самы лепшы. Не выключана, што больш дасведчаныя ў такіх справах спецыялісты прыдумаюць нешта больш дасканалае. Зразумела толькі адно, што пры адсутнасці з Расіяй нават мытнай мяжы змагацца з такой «кантрабандай» адміністрацыйнымі метадамі фактычна немагчыма. Трэба прымяняць «эканамічныя рычагі».

Увогуле, хачу адзначыць, што зараз у сельскай гаспадарцы абазначыліся тэндэнцыі да рэзкага змяншэння здачы прадукцыі жывёлагадоўлі і раслінаводства перапрацоўчым прадпрыемствам Беларусі. Усё часцей і часцей гэтая прадукцыя рэалізуецца за мяжу і камерцыйным структурам. Таксама даволі распаўсюджаны факты продажу зерня прадпрымальнікам для вытворчасці спірту, што забаронена беларускім урадам.

**— Вернемся да агульнадзяржаўных праблем барацьбы са злачыннасцю ў аграпрамысловым комплексе. Што, на вашу думку, трэба зрабіць, каб зменшыць вал эканамічнай злачыннасці ў вёсцы?**

— З нашага боку ў вырашэнні гэтай праблемы зроблена за мінулы год нямала. У прыватнасці, з існуючых 5444 аб'ектаў Мінсельгасхарчу, праверана 4789. У выніку намі прадухілена страт сельгаспрадукцыі на суму больш як 3 мільярды рублёў, апрыходавана больш як 1100 галоў буйной рагатай жывёлы, 330,5 тон зерня, іншай прадукцыі, угнаенняў, ядахімікатаў і гаруча-змазачных матэрыялаў на 2,5 мільярды рублёў. Вядома, пэўныя недапрацоўкі ёсць і ў нас. Але для вырашэння праблемы крадзяжоў на прадпрыемствах АПК неабходна аб'яднаць намаганні ўсіх дзяржаўных органаў, і не толькі праваахоўных і кантралюючых. Лічу, напрыклад, што трэба на самым высокім узроўні распрацаваць нарматыўныя акты, якія рэгламентуюць межы кампетэнцыі кіраўнікоў у сферы рэалізацыі сельгаспрадукцыі.

Наогул, калі гаварыць коратка аб вырашэнні гэтай праблемы, то ў аграпрамысловым комплексе зараз як ніколі не хапае элементарнай дысцыпліны і парадку. З гэтага і трэба пачынаць.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# «ГРАМАДЗЯНСКАЕ ДЗЕЯННЕ» АГУЧВАЕ ПРАПАНОВЫ ПА ЎДАСКАНАЛЕННЮ ПАДАТКААБКЛАДАННЯ

**Як раней паведамлялася, 14 лютага Вярхоўны Савет пачне разгляд прапаноў па ўдасканаленню падатковага заканадаўства. Да гэтага часу прапановы ўрада абмяркоўваліся ў парламенцкіх фракцыях і пастаянных камісіях. Учора ў Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя фракцыі «Грамадзянскае дзеянне», на якой былі агучаны вынікі абмеркавання паправак у падатковае заканадаўства гэтым дэпутацкім аб'яднаннем.**

У цэлым фракцыя станоўча ацаніла і падтрымлівае прапановы ўрада, накіраваныя на змяншэнне колькасці падаткаў і падатковых ільгот, на іх упарадкаванне. Але ж разам з тым, як адзначыў кіраўнік фракцыі Станіслаў Багданкевіч, гэтых прапаноў недастаткова для зніжэння падатковага цяжару, асабліва ва ўмовах падзення вытворчасці, што назіраецца на большасці прадпрыемстваў нашай краіны.

Па-першае, фракцыя прапануе ліквідаваць некаторыя адлічэнні, падаткі і зборы. Гэта тычыцца адлічэнняў у пазабюджэтныя фонды падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і фінансавання расходаў па ўтрыманню ведамаснага жылога фонду, а таксама фінансавання дашкольных устаноў. Па-другое, плануецца скасаваць падаткі на паліва, на незавершанае будаўніцтва, збор на ўтрыманне дзяржаўнай пажарнай службы, абавязковыя адлічэнні ў цэнтралізаваныя інвестыцыйныя фонды і спецыялізаваныя НДВКР. Тым не менш, як падкрэсліў Багданкевіч, скасаванне падаткаў зусім не азначае, што гэтыя сферы застануцца без фінансавання. Патрэбныя сродкі можна знайсці з іншых падаткаў. «Навошта нам 28 падаткаў, калі можна мець дзесяць?»— заключыў ён.

Прапанова «Грамадзянскага дзеяння» аб скасаванні некаторых відаў падаткаў пакуль не абмяркоўваліся з прадстаўнікамі іншых фракцый. У першую чаргу лібералы імкнуцца абмежаваць агульны аб'ём падатковых плацяжоў у памеры 35 працэнтаў дабаўленай вартасці, прадаставіць права прадпрыемствам, якія займаюцца да выдавецкай дзейнасцю, навуковымі даследаваннямі, паслугамі ў сферы адукацыі, аховы здароўя і культуры, функцыянаваць у беспрыбытковым рэжыме, абмежаваць іх плацяжы памерамі ў 5 працэнтаў ад дабаўленай вартасці. Што датычыцца прадпрыемстваў, якія завінаваціліся ў бюджэт за 1995 год, то «Грамадзянскае дзеянне» прапануе падатковай інспекцыі зрабіць растэрміноўку плацяжоў на 1 красавіка 1996 года з выплатай яе на працягу 2 гадоў з працэнтам на ўзроўні стаўкі рэфінансавання Нацбанка.

Лібералы асабліва настойваюць на тым, каб адмяніць дэлегаванне Прэзідэнту ці Кабінету Міністраў правоў на ўнясенне ўдакладненняў у падаткаабкладанне. Гэта, на думку С. Багданкевіча, не адпавядае арт. 1 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь». Катэгарычна фракцыя выступіла супраць адмены льгот для інвалідаў і іх грамадскіх арганізацый, што прапанаваў Прэзідэнт.

Адным словам, лібералы схіляюцца да таго, што пасля ўнясення змяненняў у заканадаўства аб падатках, павінен быць вернуты на дапрацоўку ўраду праект Дзяржаўнага бюджэту на 1996 год.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# АДКАЗ СПАДАРУ ЛУКАШЭНКУ НА ЯГО «ПЯТНАЦЦАЦЬ АБВІНАВАЧАННЯЎ...»

*(Заканчэнне. Пачатак на 9-й стар.).*

**Чацвёртае**. Так, з маім удзелам распрацаваны і прыняты Вярхоўным Саветам Закон «Аб Нацыянальным банку», у якім закладзена аўтаномія гэтага банка. Я ганаруся гэтым. Гэта адпавядае сусветным стандартам. На жаль, на практыцы ёсць выпадкі недасведчанага і незаконнага ўмяшання ў яго дзейнасць, у валютнае рэгуляванне, што ўжо нанесла непапраўны ўрон эканоміцы, перш за ўсё дзяржпрадпрыемствам-экспарцёрам.

**Пятае.** Так, я садзейнічаў стварэнню ў Беларусі акцыянернай, канкурэнтнай банкаўскай сістэмы. Аднак ні адной капейкі дзяржаўных рэсурсаў з Нацыянальнага банка на развіццё прыватных банкаў не выдзялялася. Гэта няпраўда. Так, доля недзяржаўнай уласнасці ў банках істотна павялічылася. Чаму? Па прычыне інфляцыі першапачатковы банкаўскі капітал, у тым ліку той, які належыць дзяржаве, абясцэніўся ў сотні разоў. Капітал папоўніўся за кошт грошай ранейшых і новых акцыянераў. Законнасць паходжання гэтых сродкаў праверана органамі Міністэрства фінансаў. Гэта былі, у асноўным, недзяржаўныя прадпрыемствы і фізічныя асобы, таму што былы ўрад рэкамендаваў міністэрствам, ведамствам, дзяржпрадпрыемствам не падпісвацца на акцыі банкаў, а таксама вывесці міністраў, дырэктараў заводаў з кіраўніцтва банкаў у імя барацьбы з карупцыяй, агучваннем якой заняўся спадар Лукашэнка. У выніку мы маем тое, што маем. Трэба было спадару Лукашэнку навучыцца бачыць рэальныя вынікі сваіх добрых намераў.

**Шостае.** Банкруцтва невялікіх прыватных прадпрыемстваў, банкаў — нармальны спадарожнік усякай рыначнай эканомікі. Атэстацыю кіраўнікоў банкаў робіць камісія, у саставе якой вучоныя, кіраўнікі камерцыйных банкаў, спецыялісты Міністэрства фінансаў. Я ў гэту камісію не ўваходзіў. Спадар Лукашэнка лічыцца большым знаўцам банкаўскай справы, чым гэтыя прафесіяналы. З «лепшым сябрам» В. Дуднікам я незнаёмы. У адрозненне ад «сяброў» Прэзідэнта, я карыстаўся «Волгай», а не «Мерседэсам». Зношаны аўтамабільны «хлам» рэалізоўваўся па тых жа правілах, што і айчынны. З Вашых гаражоў прадаваліся зношаныя аўтамабілі за тую ж цану, як і ў сістэме Нацыянальнага банка.

**Сёмае**. Аб размяшчэнні дзяржаўных рэсурсаў у Расіі праз банк «Алімп» — дэзінфармацыя і няпраўда. Ні аднаму банку ў перыяд майго старшынства ў Нацыянальным банку не быў дазволены вываз капіталу ў Расію.

Праўда ў іншым. У бягучым годзе, пасля ўжо маёй адстаўкі, Ашчадны банк атрымаў дазвол на такі вываз — так званую «адкрытую валютную пазіцыю» на суму 250 млрд. рублёў. Створаны Вамі манапаліст замест крэдытавання эканомікі Беларусі вырашыў крэдытаваць бюджэт Расіі. У сувязі з чым гэта?

**Восьмае**. Праўда, што цякучасць кадраў пры нядрэннай зарплаце складала 11,7 працэнта. «Вінаваты», што Ваша МЗС выдавала візы работнікам Адміністрацыі Прэзідэнта, КМ і Нацбанка для прыватных паездак па службовых пашпартах. «Вінаваты», што, магчыма, з 2600 працуючых у банку маглі быць жулікі. А ў Вашым акружэнні іх няма?

**Дзевятае.** Праўда, што кіраўніцтва Нацбанка спрабавала знізіць цякучасць кадраў і з дапамогай больш ільготных кароткатэрміновых крэдытаў, прадастаўляемых у межах фонду развіцця банкаўскай справы, створанага за кошт адлічэнняў ад прыбытку. Такое права мае любое прадпрыемства, у тым ліку і дзяржаўнае. Праўда, што ў асобных дакументах работнікамі ў Дзяржынску, Маладзечне і г. д. не былі прастаўлены «коскі», не атрыманы асобныя дакументы. Усё гэта было выяўлена рэвізорамі самога Нацбанка, ліквідавана ў працэсе праверак. На дзіва вялікая скрупулёзнасць для вышэйшай службовай асобы дзяржавы!

**Дзесятае**. Праўда, што валютныя рэзервы захоўваюцца ў замежных банках. І так будзе заўсёды. Гэта норма. Праўда, што па рэкамендацыі саветніка МВФ пана Пеканена ў 1995 годзе былі ўстаноўлены межы размяшчэння рэсурсаў у асобных прыватных банках і пачата работа ў гэтым напрамку. Гэта не адносіцца да Федэральнага рэзервовага банка ЗША. Чаму — зразумела любому спецыялісту, акрамя спадара Лукашэнкі.

**Адзінаццатае — дванаццатае.** Поўная дэзінфармацыя.

«Белінвестбанк» быў створаны ў адпаведнасці з распараджэннем Савета Міністраў, а не маім. Спецыялізаваны інвестыцыйны банк патрэбны эканоміцы краіны, прыносіць карысць Беларусі.

Мае дарослыя сыны крэдытаў у банку ні разу не атрымлівалі. Працуюць на розных прадпрыемствах. Грамадзянскіх правоў не пазбаўлены. Фірма «Піяск» спецыялізуецца на грузаперавозках, і ў ёй занята 26 чалавек, яна пастаянна карыстаецца крэдытамі на агульных падставах, у тым ліку атрымлівала валютныя крэдыты: кароткатэрміновыя — пад 30—35 працэнтаў, і доўгатэрміновыя на куплю грузавых машын — пад 13 працэнтаў. У Беларусі працэнты па доларавых кароткатэрміновых крэдытах вагаюцца: ад 20 да 35 працэнтаў, па доўгатэрміновых — ад 8 да 15 працэнтаў. Як вядома, рэнтабельнасць прамысловасці ў мінулым годзе знізілася да 11 працэнтаў.

Нацыянальны банк для крэдытавання эканомікі прадаставіў банкам больш як 130 млн. долараў, у тым ліку рашэннем праўлення (а не «асабіста») адкрыў крэдытную лінію «Белінвестбанку» для доўгатэрміновых інвестыцый 10 млн. долараў; асвоена менш трэці.

Няпраўда і тое, што вышэйуказаная фірма зарэгістравана па месцы майго жыхарства, што Нацбанк устанавіў працэнтную стаўку ў памеры 22 працэнтаў (на самай справе ўстаноўлена на рэсурсы для інвестыцый — 10—12 працэнтаў). Хто Вас дэзінфармуе, спадар Прэзідэнт?

**Трынаццатае.** «Вінаваты», што будучы старшынёй НБ ніколі не ўхіляўся ад адказнасці і не баяўся прымаць рашэнні. З улікам рэальнага разумення спраў рабіў выключэнні: для заводаў, фабрык, калгасаў, фірмаў. Ганаруся тым, што Нацбанк за час майго кіраўніцтва не панёс ні цэнта ўрону з-за невяртання камерцыйнымі банкамі выдзеленых ім інвалютных рэсурсаў, а ўрон, які нанеслі сабе камерцыйныя банкі з-за рызыкоўнай крэдытнай палітыкі, спісалі не за кошт дзяржавы, а за кошт уладальнікаў гэтых банкаў.

**Чатырнаццатае — пятнаццатае.** Патураў кіраўніцтву дзяржаўнага Ашчадбанка спадар Лукашэнка, а не Багданкевіч. Я толькі беспаспяхова патрабаваў ад Вас умацаваць кіраўніцтва гэтага банка, стварыць Назіральны савет і ўвесці ў яго прадстаўніка Нацбанка. Пра гэта пісалі ў свабоднай прэсе, таму гэты факт вядомы грамадскасці. Для чыіх вушэй прызначана Ваша дэзінфармацыя?

**Апошняе.** Ваша незаконнае, непрафесіянальнае ўмяшанне ў банкаўскую справу здольна ўзмацніць крызіс гэтай сістэмы, выкліканы развалам эканомікі. Спадзяюся, што ў Вярхоўнага Савета хопіць духу ўказаць Вам на гэта, спыніць самавольства.

Што датычыць «злачынства» Багданкевіча, то я звярнуўся ў Вярхоўны Савет з просьбай стварыць спецыяльную парламенцкую камісію з дэпутатаў-юрыстаў для ацэнкі на базе акта праверкі Нацыянальнага банка наяўнасці ў дзеяннях Багданкевіча крымінальных злачынстваў, пра якія сцвярджае Прэзідэнт, і аб выніках інфармаваць грамадскасць.

**С. БАГДАНКЕВІЧ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета.**

# У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб пакрыцці расходаў на ўтрыманне дзяцей, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні.

Устанавіць, гаворыцца ва ўказанай пастанове, што бацькі, якія не забяспечваюць неабходных умоў для паўнацэннага развіцця, выхавання, адукацыі, умацавання здароўя дзіцяці і падрыхтоўкі яго да самастойнага жыцця ў сям'і і грамадстве, у выніку чаго дзіця выхоўваецца ў апякунскай (прыёмнай) сям'і, дзіцячым доме, у тым ліку сямейнага тыпу, школе-інтэрнаце, спецыяльнай школе для дзяцей, якія маюць патрэбу ў асаблівых умовах выхавання, спецыяльным прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы, іншай вучэбна-выхаваўчай установе на дзяржаўным забеспячэнні, часткова пакрываюць расходы на яго ўтрыманне ў памеры дзвюх мінімальных заработных плат у месяц.

Гэтай жа пастановай прадастаўляецца мясцовым выканаўчым і распарадчым органам права зніжаць плату за ўтрыманне дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, да адной мінімальнай заработнай платы ў месяц.

Даручана міністэрствам адукацыі і навукі, фінансаў па ўзгадненню з міністэрствамі юстыцыі, сацыяльнай абароны, аховы здароўя, аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам у двухмесячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць інструкцыю аб парадку пакрыцця расходаў на ўтрыманне дзяцей, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, прадугледзеўшы ў ёй механізм спагнання бацькоўскай платы, меры адказнасці бацькоў за несвоечасовасць яе ўнясення, а таксама пералік катэгорый бацькоў, выслабаняемых ад пакрыцця гэтых расходаў.

Пункты 4 і 5 Пастановы Савета Міністраў ад 16 ліпеня 1993 г. № 468 «Аб матэрыяльным забеспячэнні выхаванцаў інтэрнатных устаноў і бацькоўскай плаце за ўтрыманне ў іх дзяцей» выкладзены ў наступный рэдакцыі:

«4. Устанавіць, што плата бацькоў за ўтрыманне здольных і таленавітых дзяцей у школах-інтэрнатах і іншых установах інтэрнатнага тыпу складае 30 працэнтаў мінімальнай заработнай платы ў месяц.

5. Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы ў выключных выпадках могуць вызначаць дзяцей, якія апынуліся ў экстрэмальных сітуацыях (стыхійныя бедствы, аварыі, катастрофы, забруджванне навакольнага асяроддзя як вынік аварый на АЭС, прамысловых прадпрыемстваў і іншыя), у дзіцячыя інтэрнатныя ўстановы без пакрыцця бацькамі расходаў на іх утрыманне, але не больш чым на 6 месяцаў».

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

# ДЛЯ СЁННЯШНІХ ПАЛЯКАЎ ХАРАКТЭРНЫ САЦЫЯЛЬНЫ АПТЫМІЗМ

Праз некалькі дзён Польшчу чакае вялікая палітычная падзея. 18 лютага мае адбыцца агульнапольскі рэферэндум аб нацыянальнай прыватызацыі, вынікі якога вызначаць далейшы ход рэформаў у краіне. На рэферэндум выносяцца чатыры пытанні, якія датычацца: 1) выкарыстання сродкаў, атрыманых ад прыватызацыі, на задавальненне патрэб пенсіянераў і працаўнікоў бюджэтнай сферы; 2) стварэння на аснове прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці Нацыянальнага пенсіённага фонду; 3) павелічэння намінальнай вартасці сертыфікатаў нацыянальных інвестыцыйных фондаў за кошт далейшай прыватызацыі прадпрыемстваў; 4) выкарыстання ў працэсе рэалізацыі праграмы прыватызацыі спецыяльна выпушчаных бонаў (аналагаў нашых чэкаў «Маёмасць»).

Паводле даных сацыялагічных даследаванняў, праведзеных Цэнтрам даследаванняў грамадскай думкі за тыдзень да рэферэндуму, большасць палякаў выказвае жаданне ўдзельнічаць у рэферэндуме. З іх 78 працэнтаў падтрымліваюць ідэю далейшай прыватызацыі, і больш як 6 працэнтаў — катэгарычна супраць. На першае пытанне маюць намер адказаць станоўча 81 працэнт апытаных, на другое — 80 працэнтаў, на трэцяе — 70 працэнтаў, на чацвёртае — 56 працэнтаў будучых выбаршчыкаў.

Як бачым, нягледзячы на пашырэнне ўплыву левых сіл і абранне прэзідэнтам посткамуніста Аляксандра Квасьнеўскага, вяртанне да камуністычнага мінулага для Польшчы немагчымае. Палякі разумеюць неабходнасць далейшых рэформаў і цвёрда стаяць на шляху ў цывілізаваную Еўропу. На думку Януша Энгеля, супрацоўніка Цэнтра даследаванняў грамадскай думкі, для сённяшніх палякаў характэрны сацыяльны аптымізм, выкліканы эфектам поўных паліц у крамах, добрым станам фінансавай сістэмы і змяншэннем беспрацоўя. Так, 53 працэнты апытаных упэўнены, што польская гаспадарка паспяхова развіваецца, 41 працэнт — знаходзіцца ў крызісе. Сярод песімістаў пераважаюць пенсіянеры і людзі без адукацыі.

Тым не менш, 29 працэнтам апытаных не хапае грошай на першачарговыя жыццёвыя патрэбы, 54 працэнтам хапае на асноўныя патрэбы, але не больш таго, толькі 17 працэнтаў браўшых удзел у апытанні могуць дазволіць сабе штосьці большае. Аднак 27 працэнтаў упэўнены, што ў наступным годзе іх справы палепшацца, 50 працэнтаў — застануцца без змен, песімісты складаюць 18 працэнтаў апытаных.

Сацыёлагі сцвярджаюць, што палякі сталі больш прагматычна падыходзіць да свайго капіталу. 53 працэнты сцвярджаюць, што грошы варта ашчаджаць; 68 працэнтаў рэкамендуюць купляць рэчы доўгатэрміновага карыстання.

**Пятро РАГОЙША.**

***(Матэрыял узяты з выпускаў навінаў TV Polonia, Polsat).***

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

- **У АДЗІНУЮ ВАЛЮТНУЮ СІСТЭМУ ГЕРМАНІЯ ХОЧА ЎВАЙСЦІ БЕЗ ФРАНЦЫІ**

Прэм'ер-міністр Францыі Ален Жупэ ўчора адбыў у Германію для правядзення перамоў з канцлерам Гельмутам Колем. Асноўным пытаннем перамоў стане праблема затрымкі з увядзеннем адзінай еўрапейскай валюты. Жупэ заявіў, што, нягледзячы на заявы Германіі Францыя здольна быць кваліфікаванай для ўступлення ў адзіную валютную сістэму.

- **ХОЛБРУК ВЫРАШАЕ БАСНІЙСКІЯ «СКЛАДАНАСЦІ»**

Прадстаўнік ЗША Рычард Холбрук знаходзіцца з візітам у Босніі, каб паспрыяць вырашэнню складанасцей у правядзенні мірнага працэсу. Ён зазначыў, што атрымаў папярэднія гарантыі ад прэзідэнтаў Босніі і Сербіі, што апошнія будуць прытрымлівацца пунктаў пагаднення. Учора ў Сараева Холбрук правёў сустрэчу з прэзідэнтам Босніі. У бліжэйшы час ён накіруецца ў Бялград для перамоў з прэзідэнтам Сербіі.

- **РУСКІЯ Ў АМЕРЫЦЫ**

Пракуратура паўднёвай акругі Нью-Йорка прад'явіла абвінавачанне 15 членам банды злачынцаў, аснову якой складалі выхадцы з Расіі. За махінацыі з крэдытнымі карткамі, вымаганне і іншыя злачынствы кожны з арыштаваных можа атрымаць больш як 30 гадоў турэмнага зняволення.

- **МАБІЛЬНЫЯ ТЭЛЕФОНЫ Ў ЛАТВІІ НЕ ПРАЦУЮЦЬ**

Латвія вымушана блакіраваць частоты, на якіх працуюць мабільныя тэлефоны. Закрыты ўсе перагаворы з краінамі Паўночнай Еўропы. Падставай для прыняцця гэтых мераў стала махлярства буйных груповак у прамысловых маштабах, якія выраблялі і выкарыстоўвалі кодавыя карткі для мабільных тэлефонаў.

- **ФУТБОЛ І Ў ЯПОНІІ ФУТБОЛ**

Прэ'ер-міністр Японіі Рутара Хасімота абмяркоўвае пытанне аб асабістым пісьмовым звароце ў кіруючы орган Сусветнай футбольнай асацыяцыі з просьбай аказаць падтрымку заяўцы Японіі на правядзенне ў сябе ў 2002 годзе спаборніцтваў Кубка свету па футболу.

- **НЕ ХОЧУЦЬ НЕМЦЫ СЛУЖЫЦЬ У ВОЙСКУ**

Паводле даных мінстэрства абароны, у мінулым годзе ад ваеннай службы адмовілася рэкордная колькасць грамадзян ФРГ -- 160 тысяч чалавек.

- **НАШЫ ПАКУЛЬ ТОЛЬКІ ПАГРАЖАЮЦЬ...**

Паліцыя штата Нью-Йорк арыштавала 13-гадовых падлеткаў і прад'явіла ім абвінавачанне ў тым, што яны збіраліся ўчыніць выбух у сваёй школе. Пры арышце ў іх былі знойдзены матэрыялы, якія выкарыстоўваюцца для вытворчасці выбуховых устройстваў. Застаецца спадзявацца, што нашы школьнікі ад пагроз узарваць школу і ананімных тэлефонных званкоў да практычных дзеянняў не пяройдуць.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё Расіі, «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Аркестр пасяліўся ў роце ў англічанкі Мары Сцюард з Бірмінгема. Доўгі час яна не магла зразумець, ці то гэта ёй здаецца, ці гэта сапраўды так. Неўрапатолагі абследавалі жанчыну, але безвынікова. Нарэшце выявілася: жанчына чула зусім рэальныя гукі. Амальгамавая пломба ў адным з зубоў і залатая каронка на гэтым жа зубе дзейнічалі як свайго роду мініяцюрны радыёпрыёмнік, які лавіў перадачы мясцовага радыё. Праўда, толькі пры спрыяльных атмасферных абставінах.

**ЭКСТРА-ПРЭС**

*З павіннай з'явіўся да суседзяў Сяргей Зайцаў з пасёлка Акцябрскі Свярдлоўскай вобласці. Ён вярнуў ім украдзеныя слоікі з саленнямі і вядро бульбы. У студзеньскую ноч, калі пенсіянеры святкавалі, Зайцаў узламаў замок павеці. Выявіўшы прапажу ўсіх прыпасаў, якія яны вырасцілі і нарыхтавалі сваімі рукамі, старыя звярнуліся ў міліцыю і ацанілі нанесены ім урон у пяць мільёнаў рублёў. Пачуўшы, што заводзіцца крымінальная справа, злодзей вырашыў добраахвотна аддаць частку ўкрадзенага. Другую палову — на 2,5 мільёна рублёў — ён, бачна, паспеў з'есці.*

**ЕАН**

Жыхар сяла Стрыжаўка на Віннітчыне П. Мазур вырашыў пракласці да сваёй хаты вадаправод. Але гэта аказалася не так проста.

Струмень з крана ўсё змяншаўся, і за вадой прыйшлося ісці да крыніцы. Што толькі не рабіў гаспадар — чысціў, прадзьмуваў вадаправод — усё дарэмна. Дапамог выпадак. Калі ў трубы пусцілі гарачую ваду, адтуль выпаўзлі тры вужы, памеры якіх дасягалі ад 30 см да метра.

**«Труд»**

## ВАРТА ПРЫСЛУХАЦЦА

# Бяспека зімой

**По календары ўжо хутка прыйдзе вясна, але ж на самай справе зіма штосьці не спяшаецца здавацца. Усе мы добра адчулі гэта на сабе ў апошнія дні. Таму, напэўна, будуць дарэчы нашы папярэджанні.**

● Абмаражэнне можа здарыцца вельмі хутка і амаль незаўважна. Асабліва вялікая рызыка пры спалучэнні ветру і павышанай вільготнасці паветра. У такіх умовах абмарозіцца можна нават пры нулявой тэмпературы. Найбольш часта абмарожваюцца кончык носа, вушы, падбародак. Яшчэ часцей — пальцы рук і ног, калі яны сціснуты пальчаткамі ці абуткам, што ўскладняе нармальны кровазварот.

● Здаровы чалавек без асаблівых праблем пераносіць перапады тэмпературы, выходзячы з цёплага памяшкання на ледзяное зімовае паветра. Калі ж у сям'і хто-небудзь пакутуе ад захворванняў сэрца, ніколі не трэба забываць пра лекі. Бо ранішні выхад з дому для такіх людзей зусім небясшкодны. Ужо першае адчуванне перападу тэмператур, якое часцей дзейнічае нібы ўдар бізуна, можа справакаваць вострую недастатковасць кіслароду ў лёгкіх, што часта канчаецца сардэчным прыступам.

● Будзе добра, калі вы, сядаючы ў настылы аўтамабіль, пакладзяце на сядзенне прынесеную з цёплага дома падушачку. Такім чынам вы засцеражэце сябе ад запалення нервовых канчаткаў і недамаганняў, што звязаны з пазваночнымі дыскамі.

Неабходна памятаць і тое, што на свежым паветры заўсёды трэба дыхаць толькі носам. Гэта асабліва важна для астматыкаў і тых, хто хварэе на хранічны бранхіт. Сухое, халоднае паветра, перад тым як трапіць у лёгкія, праходзіць праз нос, дзе награваецца і ўвільгатняецца. Дзякуючы гэтаму яно становіцца больш карысным для нашага арганізма.

● Калі вы моцна прамерзлі, лепш за ўсё настояць сабе мяты і падсаладзіць яе мёдам або глюкозай (выпіць гарачай). Рэчывы, што ўтрымліваюцца ў мяце, ажыўляюць цыркуляцыю крывяноснай сістэмы, а мёд ці глюкоза вельмі добра засвойваюцца страўнікам, і такім чынам за кароткі перыяд вяртаецца затрачаная на марозе энергія.

● Абмарожаныя ўчасткі цела нельга расціраць снегам, хаця гэта і лічыцца вельмі папулярнай формай першай дапамогі. Не трэба і хутка адаграваць абмаражэнне, напрыклад, каля печы. Самым разумным будзе паступова, пры пакаёвай тэмпературы, адаграваць абмаражэнні, адначасова робячы асцярожныя рухі. Або ў ванне з тэмпературай вады 35°, паціху павялічваючы яе да 38°.

## МАЛЕНЬКІЯ ХІТРАСЦІ

# Каб снег не набіваўся ў чаравікі

Усе, хто катаецца зімой на лыжах, ведаюць, што калі ісці па снежным цаліку, то ў чаравікі набіваецца снег і ногі хутка прамакаюць. Ёсць спосаб пазбавіцца ад гэтай непрыемнасці: абгарніце пад'ём чаравіка паралонавай стужкай так, каб пасля шнуроўкі чаравіка стужка шчыльна абхоплівала нагу, крыху выступаючы наверх, і не дазваляла б снегу трапіць у чаравік (гл. мал.). Паралон можна і ўклеіць у чаравік.

-1252-

## РЫБАЦКІЯ ЗГАДКІ

# «Сакрэтная зброя» рыбака

**Наступныя парады «ХЭ» адрасуе аматарам падлёднага лову. Будзем рады, калі яны вам прыдадуцца.**

### ЦВЁРДАСПЛАЎНАЯ МАРМЫШКА

Такія мармышкі вырабляюць без адтуліны, а з невялікім падоўжаным пазам — 0,6 х 0,6 мм. Матэрыялам служаць адпрацаваныя вальфрамавыя электроды ад апаратаў кантактнай электразваркі. Апрацоўваюць іх на універсальным абсталяванні з прымяненнем алмазных і цвёрдасплаўных інструментаў. Гэтыя мармышкі не толькі мініяцюрныя, але і дастаткова цяжкія — удзельная вага вальфраму амаль у два разы вышэй, чым свінцу. А гэта значыць, што цвёрдасплаўныя мармышкі ўдвая хутчэй апускаюцца на патрэбную глыбіню, а рыба не паспявае спалохацца і адплыць ад лункі.

Паз (1) запаўняюць эпаксідным клеем, у які ўстаўляюць кручок (4) з дроту дыяметрам 0,4—0,45 мм з кольцам (2). Да кольца прывязваюць лёску (гл. мал.).






### «ЛАНЦУЖОК»

Пры дапамозе мармышкі «ланцужок» рыбу можна лавіць без насадкі. Зрабіць яе вельмі проста. На кручок мармышкі тыпу «чорцік» ці «мурашка» надзяваецца кароткі ланцужок з трох-чатырох звёнаў (пажадана з металу жоўтага колеру), які замацоўваецца невялікім чырвоным кембрыкам (гл. мал.). Практыка паказала, што ўлоўнасць усіх мармышак з ланцужком вышэйшая, чым звычайных. Магчыма, рыбу прываблівае не толькі рух ланцужка, але і шум, які ўтвараецца ім у вадзе.

-1253-

## НА ЎСЕ РУКІ МАЙСТРЫХА

# Быў бы цвік, а штаны знойдуцца



■ Калі вы мыеце рэч з трыкатажнага палатна, то вельмі зручна карыстацца канторскім клеем. Змажце ім краі несфастрыгаванага вырабу і дайце высахнуць. Такім чынам пры далейшым абкідванні і шыцці краі не расцягваюцца і не дэфармуюцца. Пасля таго, як рэч будзе гатова, добра памыйце ўсе швы з мылам.

■ Працуючы з тонкім матэрыялам, падлажыце пад яго тонкую паперу, напрыклад кальку.

Змажце іголку мылам — яна будзе лягчэй праходзіць праз тоўстую тканіну.

■ Калі ваш муж або сын падраў штаны, зачапіўшыся за цвік, падрамантаваць іх можна так: ссуньце як мага бліжэй краі разрыву, вазьміце кавалак той жа тканіны і намажце яго густа яечным бялком. Затым пакладзіце пад разарванае месца і прапрасуйце з адваротнага боку гарачым прасам. Тканіна прыклеіцца навечна.

## РАПТАМ СПАТРЭБІЦЦА

# Не толькі адходы

Мы прывыклі выкідваць у адходы нават некаторыя карысныя рэчы. Вось, напрыклад, шалупінне цыбулі. Яго, у лепшым выпадку, выкарыстоўваюць раз у год — перад Вялікаднём у моцным адвары фарбуюць яйкі. У астатні ж час яму адна дарога — у памыйніцу.

А між іншым моцным адварам шалупіння цыбулі (з разліку 1 чайная лыжка шалфею на 0,5 л адвару) палошчуць рот пры парадантозах, флюсах і г. д. Пры гэтым шалфей засыпаюць у гатовы адвар, які потым зноў даводзяць да кіпення і настойваюць паўгадзіны. Паласкаць рот трэба не доўга, але часта. Запаленне прападае ў сярэднім за двое сутак.

Такая сумесь дзейнічае хутчэй, чым адзін адвар шалфею, а галоўнае — умацоўвае дзясны, і запаленні здараюцца радзей.

Адваранае шалупінне, перамяшанае з лісцем трыпутніку ў роўнай колькасці, змешваюць з чайнай лыжкай мукі і мёду. Атрыманыя аладкі накладваюць на фурункулы і карбункулы, абсцэсы. Гнайнікі раскрываюцца на працягу сутак.

Цяпер — аб адходах больш экзатычных: вуліцы гарадоў літаральна завалены бананавымі лупінамі. Прападаюць яны без карысці. Ды яшчэ можна на іх паслізнуцца, упасці, нагу зламаць. На радзіме ж бананаў іх лупіны сушаць (толькі не на сонцы і не ў духоўцы). Добрымі лічацца тыя, што пасля сушкі захоўваюць зялёны, залацістажоўты колер або маюць крыху карычневае адценне. Чорныя і цёмна-карычневыя лупіны выкідваюць. Высушаную абалонку бананаў здрабняюць у парашок і захоўваюць у слоіках у халаднаватым цёмным месцы. А прымяняюць гэты парашок на кончыку нажа 4-5 разоў на дзень перад ядой для выгнання глістоў, асабліва ў дзяцей. Гэты спосаб добры тым, што скурка бананаў не дае ні атручэнняў, ні ўскладненняў.

-1254-

## ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ

# Якая ж Масленіца без бліноў?



**Наперадзе першае веснавое свята — Масленіца. Свой пачатак яно бярэ з часоў язычніцтва і адзначалася нашымі продкамі як свята праводаў зімы. Традыцыйнай стравай у дні Масленіцы лічыліся бліны. Круглы, гарачы блін сімвалізаваў Сонца.**

**Прапануем і вам успомніць гэту цудоўную народную традыцыю і пачаставаць сваіх блізкіх блінамі. А каб яны атрымаліся сапраўды румянымі і духмянымі, прыслухайцеся да нашых парад. Асабліва гэта будзе карысна маладым гаспадыням.**

Першая справа — цеста. Бліннае цеста замешваецца на рошчыне. Спачатку на вадзе або малаку з дрожджамі рашчыняецца толькі частка мукі, а потым, калі рошчына падыдзе, дадаюцца астатняя мука, соль, цукар, масла. Затым уводзяцца ўзбітыя яечныя бялкі, вяршкі. Цеста яшчэ раз падыходзіць, і толькі пасля гэтага з яго выпякаюць бліны. Дарэчы, раней іх пяклі ў печы, таму дагэтуль пра бліны гавораць «пячы», хаця зараз іх часцей смажаць.

Цяпер патэльня. Звычайна патэльню для бліноў не мыюць. У яе наліваюць крыху алею, насыпаюць буйной солі, добра праграваюць, даюць крыху астыць, затым праціраюць сухой тканінай. Калі патэльня дрэнна ачышчана, то першы блін не ўдаецца («першы блін камяком»). У гэтым разе ўсё трэба паўтарыць нанава.

Працэс выпякання бліноў нескладаны: на разагрэтую, змазаную тлушчам (можна ўзяць кавалак свінога сала) патэльню апалонікам выліць такую колькасць цеста, каб яно магло разліцца тонкім слоем па ўсёй паверхні. Для гэтага неабходны пэўны навык, які набываецца практыкай. Калі ніжняя частка бліна падрумяніцца, яго змазваюць зверху маслам і адразу ж пераварочваюць на другі бок.

Гатовыя бліны складваюць у глыбокую пасудзіну стосам і накрываюць зверху сурвэткай. Да бліноў падаюць масла, смятану, салёную рыбу, ікру.

### БЛІНЫ ПШАНІЧНЫЯ

**2,5 шклянкі пшанічнай мукі, 0,5 л малака, 2 яйкі, 1 ст. лыжка топленага масла, 0,5 ч. лыжкі цукру, 15 г дражджэй, 0,5 ч. лыжкі солі, алей.**

Крыху падагрэць палову малака і развесці ў ім дрожджы, змяшаць з мукой і замясіць цеста, паставіць яго ў цёплае месца. Калі цеста паднімецца, уліць у яго рэшту малака з размешанымі ў ім жаўткамі, дадаць растопленае масла, соль, цукар, старанна перамяшаць, даць цесту падысці яшчэ раз. Перад выпяканнем бліноў увесці ўзбітыя бялкі.

### БЛІНЫ НЯДЗЕЛЬНЫЯ

**4 шклянкі мукі, 25 г дражджэй, 2 яйкі, 1,5 шклянкі малака, 2 ст. лыжкі алею, 0,5 ч. лыжкі цукру, соль.**

З усёй мукі, 3 шклянак падагрэтай вады і дражджэй замясіць цеста ўвечары і пакінуць яго да раніцы. Закіпяціць малако і, памешваючы, уліць яго ў цеста, дадаць яйкі, соль, цукар, алей, старанна перамяшаць. Паставіць у цёплае месца на 25—30 хвілін, каб цеста падышло.

Смажыць бліны на добра разагрэтай патэльні, не падмазваючы (цеста з алеем).

-1255-

## КРЫМІНАЛ

# ХТО АБАРОНІЦЬ СТАРОГА?

**У наш час цяжэй за ўсіх жывецца пенсіянерам. Як кажуць, дай Бог дажыць да пенсіі, але не дай Бог аказацца на месцы многіх з гэтых людзей. Так і не прыстаўшыся да новых умоў, яны стараюцца неяк выжыць, адмаўляючы сабе ў элементарным, сабраць мізэрную суму на «чорны дзень», а то па прывычцы дапамагчы дзецям і ўнукам. Сёй-той «корміцца» тым, што гандлюе цыгарэтамі. Іншыя ўладкоўваюцца вахцёрамі, прыбіральшчыцамі, то і проста становяцца жабракамі.**

Старыя — самая безабаронная частка насельніцтва. Штомесяц на бытавой глебе адбываюцца сотні і сотні канфліктаў, у выніку якіх пажылым людзям наносяцца цяжкія траўмы — як фізічныя, так і маральныя. Сын з абласнога цэнтра прыехаў да адзінокага бацькі ў вёску. Стары закалоў кабана, каб пачаставаць нашчадка свежанінай. А той па прывычцы падумаў, што гатовае мяса з салам ужо чакае яго на стале. Але бачачы, што туша забітага кабана яшчэ не разабрана, п'яны сынок вырашыў свайго старога за непаваротлівасць правучыць. У выніку бацьку былі нанесены цяжкія цялесныя пашкоджанні. Чалавек застаўся жывы і ў міліцыю на сына не заявіў. Але штодзённа аператыўныя зводкі стракацяць паведамленнямі і аб гібелі састарэлых у выніку атрыманых пабояў. Толькі за апошнія дні, паводле папярэдніх даных, ад рук дзяцей загінулі састарэлыя бацькі ў вёсцы Сакольнікі Віцебскага раёна, вёсцы Старына Стаўбцоўскага раёна. А вось у вёсцы Люціна Валожынскага раёна пляменнік забіў сваю 69-гадовую цётку...

Сухія радкі аператыўнай зводкі... Але за кожным фактам злачынства стаіць гора родных, блізкіх людзей. Нярэдка забіваюць за некалькі тысяч рублёў, бутэльку гарэлкі. Так, у вёсцы Млынок Мазырскага раёна быў знойдзены са шматлікімі нажавымі раненнямі труп 85-гадовай пенсіянеркі. Папярэднім следствам устаноўлена, што забойства з мэтай завалодання маёмасцю старой учыніў 19-гадовы непрацуючы жыхар суседняй вёскі. Такія забойствы толькі ў апошнія дні ўчынены ў Баранавічах, вёсцы Воркавічы Верхнядзвінскага раёна...

Злачынцы, якія ўчыняюць разбой, карыстаюцца даверлівасцю старых. Так, у гомельскую міліцыю звярнулася па дапамогу 80-гадовая пенсіянерка. Да яе раніцай завіталі двое невядомых, прадставіўшыся знаёмымі яе дачкі. Зайшлі ў кватэру, звязалі старую і ўкралі 3 бутэлькі гарэлкі, бутэльку спірту і пайшлі. А ў Баранавічах у незачынены дом па вуліцы Халасцякова зайшлі мужчына і жанчына і пад пагрозай нажа запатрабавалі ў пенсіянеркі грошы. Аднак у старой іх не аказалася. Злачынцы паранілі жанчыну.

Праблема абароны састарэлых людзей становіцца ўсё больш вострай. Як зберагчы іх спакой, ўратаваць жыццё ад злачынцаў? Работа таго ж участковага міліцыянера-аператыўніка нічога не будзе каштаваць, калі ён не змог прадухіліць злачынства. Аб гэтым гаварылася на нядаўна прайшоўшай калегіі Міністэрства ўнутраных спраў. На ёй распрацаваны дадатковыя прафілактычныя меры па абароне пажылых людзей. Але міліцыі, нават пры ўсім жаданні, адной не вырашыць гэту праблему. Вядома, зацікаўленым ведамствам трэба прыняць і дадатковыя меры, грамадскасці па выкананню Рэспубліканскай комплекснай праграмы па праблемах пажылых людзей, зацверджанай пастановай Саўміна яшчэ ў верасні 1993 года.

**Васіль КУРЛОВІЧ, прэс-цэнтр МУС.**

# ШАНЦАЎ ЗЛАЧЫНЦАМ МІЛІЦЫЯ НЕ ПАКІНУЛА

**Злачынныя элементы дзе-нідзе сталі такімі нахабнымі, што ўчыняюць напады на людзей сярод белага дня.**

Так, напрыклад, было шостага лютага ў Гомелі, калі двое маладых хлопцаў папрасілі вадзіцеля аднаго з малых прадпрыемстваў падвезці іх да вёскі Брылёва Гомельскага раёна. Той згадзіўся і хутка пашкадаваў аб гэтым, бо за горадам пад пагрозай нажа яго перасадзілі на задняе сядзенне і пагналі «аўто» ў напрамку, які быў вядомы толькі тым дваім. Вадзіцелю ўсё ж удалося вырвацца з палону, калі грабежнікі заехалі на аўтазаправачную станцыю, і праз тры хвіліны пасля яго тэлефоннага званка ў міліцыю ў горадзе быў уведзены план «Перахват». І ўжо праз 22 хвіліны грабежнікі, як гаворыцца, вымушаны былі здацца. Угоншчыкамі аказаліся двое непрацуючых з суседняй Украіны.

Менш за паўгадзіны спатрэбілася работнікам міліцыі для затрымання і абясшкоджвання яшчэ дваіх угоншчыкаў, якія ў 20 гадзін спынілі на адным з тралейбусных прыпынкаў у цэнтры горада ўладальніка асабістай легкавушкі і папрасілі падвезці іх у пяты мікрараён. Калі «аўто» спынілася, хлопцы накінуліся на вадзіцеля з нажом, парэзалі яму твар і руку і невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б яму не ўдалося выскачыць з машыны і ўцячы. І на гэты раз быў уведзены план «Перахват». Адчуўшы, што, як кажуць, запахла паленым, злачынцы аказалі міліцыянерам фізічнае супраціўленне, ды толькі дарэмна: аднаго з іх скруцілі, а другі кінуўся наўцёкі. Толькі і ён апынуўся на зямлі. Злачынцамі, як і ў першым выпадку, аказаліся двое маладых хлопцаў, якія нідзе не працавалі. У час іх затрымання, як і раней, дакладна і высокапрафесіянальна дзейнічала група аператыўнага дзяжурнага УУС аблвыканкома маёра міліцыі Васіля Лазебнікава.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# СМЕХАТЭРАПІЯ

## Я ВАМ НЕ СКАЖУ ЗА ЎСЮ АДЭСУ
### (Па матывах аднаго хіта)

Быў час, калі жыў Сяргей Іванавіч у Адэсе і кіраваў рыбацкай арцеллю. Як правіла, ён перавыконваў план вылаву рыбы і прыводзіў у Адэсу шаланды, літаральна да краёў напоўненыя кефаллю. Перадавы працаўнік карыстаўся вялікай павагай сярод роднага працоўнага класа. Калі ён, напрыклад, уваходзіў у піўную, каб адзначыць чарговы працоўны подзвіг, усе біндзюжнікі, якія там сядзелі, уставалі ў знак павагі. Лічачы, што ён не мае права гаварыць за ўсю Адэсу — вельмі ж буйны горад, Сяргей Іванавіч поўнасцю адказваў і за Малдаванку, і за Пярэсып — у гэтых пралетарскіх раёнах безумоўна паважалі знатнага рыбака і зухаватага марака. Аднойчы ў маі шаланду Сяргея Іванавіча нагнаў баркас, якім кіравала рыбачка Соня. «Як дзіўна! — усклікнула Соня, намагаючыся перакрычаць шум ветру і хваляў. — Усе вас ведаюць, а я вось бачу ў першы раз». Сяргей Іванавіч засаромеўся. А калі ён саромеўся, то ў першую чаргу закурваў. Курыў ён заўсёды адну і тую ж марку — папяросы «Казбек». «И он, достав «Казбека» пачку», адкрыў яе, выцягнуў папяросу і доўга раздумваў над адказам, пастукваючы муштуком папяросы па накрыўцы. «Вы интересная чудачка», — нарэшце сказаў ён. А на наступны дзень адбылася цікавая для гэтага сезона з'ява: раён Адэсы, што завецца Фантанам, чароомхай пакрыўся, а бульвар, што носіць назву Французскага, і зусім аказаўся ў квецені. Як вынік, у порце пачалі шаптацца грузчыкі, дзелячыся дзіўнай здагадкай: Сяргей Іванавіч, здаецца, закахаўся.

І яны не памыліліся! Вяселле доўжылася цэлы тыдзень, што паставіла план вылаву рыбы пад пагрозу. Па вядомай адэскай традыцыі, госці прыходзілі ў абутку, які страшэнна рыпеў. І дарэмна так сціпла выказваўся Сяргей Іванавіч адносна маштабу сваёй вядомасці ў вялікім прамысловым цэнтры, горадзе глыбокіх культурных традыцый: не толькі Малдаванка і Пярэсып, але практычна ўся Адэса дзень за днём і ноч за ноччу гуляла на яго вяселлі.

А потым усе разам выйшлі ў мора і выратавалі план. Але гэта ўжо іншая песня.

**Г. ДРОБІЗ.**

## КОНКУРС АНЕКДОТАЎ

Сямейная спрэчка. Знерваваная жонка крычыць на мужа:

— Хіба я дурная, што ты пастаянна мяне папраўляеш? Гэта працягваецца ўжо 19 гадоў!

— Васемнаццаць, каханая, васемнаццаць...

❑

*Муж прыглядаецца, як яго жонка вучыць сабаку служыць:*

*Перастань, дарагая, не мучайся, у цябе не атрымаецца...*

*— Нічога, атрымаецца! З табой у мяне спачатку таксама не атрымлівалася.*

❑

Ведаеш, праз тыдзень надыдзе канец свету!

— Ведаю. Праз тыдзень прыедзе з адпачынку мая жонка.

❑

*— Ой, не спяшайся, дачушка, замуж. Цяпер мужыкі з кожным годам усё горшыя,— вучыць маці сваю дачку.*

*— Вось таму я і павінна спяшацца, каб мне не дастаўся найгоршы,— адказвае дачка.*

❑

— Чаму ты такі сумны?— пытаецца сябар.

— Толькі што званіў нейкі мужчына і сказаў, што калі я не пакіну ў спакоі яго жонку, то ён мяне заб'е.

— Дык пакінь яе ў спакоі!

— Але ж ён не назваў сябе, і я не ведаю, якую я павінен пакінуць...

❑

*П'яны мужык прыйшоў дамоў і крычыць з парога:*

*— Жонка! Пачні сварыцца, а то ложак не знайду!*

❑

Размова дзвюх сябровак:

— Твой жаніх недалікатны. Пакуль ты гаварыла з ім, ён пазяхнуў разоў дзесяць.

— Ён не пазяхаў, а спрабаваў мне адказаць.

**Анекдоты даслалі В. БАБЕЙ** *(г. Мінск )* **і Э. ВІРБУЛЬ** *(г. Паставы.)*

***Шаноўныя чытачы!***

***Мы атрымалі вялікую колькасць анекдотаў на конкурс, у прыватнасці ад І. Ягорава са Шчучынскага раёна, В. Беляковай са Столінскага, Н. Марозавай з Полацкага раёна, Н. Лось з г. Заслаўе і многіх іншых, за што вельмі ўдзячныя. Аднак вымушаны яшчэ раз прасіць, каб не дасылалі старых, шырока вядомых анекдотаў.***

## ДУМКАМ ЦЕСНА

Мужчына да таго часу абходжвае жанчыну, пакуль яна не абвядзе яго вакол пальца.

Якую ж трэба мець сілу, каб не заўважаць слабасцей жонкі.

Жывучы пад абцасам жонкі, няма чаго разлічваць на павелічэнне жылплошчы.

Цяга да цудоўнага зрабіла яго мнагажэнцам.

Мужыкам сняцца жанчыны, а не жонкі.

І мужыкі бязбожнікі павінны абажаць сваіх жонак.

Не ўсякі паліглот можа дамовіцца са сваёй жонкай.

Свабода— гэта права рабіць усё, што дазваляе жонка.

Стогн мужыкоў— гэта крык жаночай моды.

Незалежнасць мужа залежыць ад жонкі.

Не хочаш жыць сваім розумам— жаніся!

Нішто так не робіць высакародным мужчыну, як добрая жонка.

Пагаджайся з усім, што кажа жонка, і яна стане тваёй аднадумцай.

Калі ты звар'яцеў ад кахання, цябе чакае радасць разводу.

Каханне прыходзіць і адыходзіць, а аліменты застаюцца.

Паэзія кахання, старэючы, становіцца прозай жыцця.

Колькі трэба перажыць імгненняў кахання, каб адчуць яго вечнасць.

Любоўны трохвугольнік— гэта дэфармаваны сямейны круг.

**Сабраў Аляксандр РАТНЕР.**

## УСМЕШКА МАСТАКА



*Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.*



*— Пакідаю табе, жонка, усё...*



*— Вы як сабе хочаце, а я адчуваю, што мне ўжо пара дамоў.*

**Малюнкі Марыны ГАРЭЛАВАЙ.**

## СМЕХ БЕЗ МЕЖАЎ

Начальнік спрабаваў дазваніцца да аднаго з супрацоўнікаў, які знаходзіўся дзесьці ў другім канцы будынка. Спяшаючыся, ён набраў нумар сваёй сакратаркі. Яна зняла трубку і, робячы яму знакі рукой, працягнула яе.

— Гэта мяне?— запытаўся ён.

— Не,— адказала сакратарка,— гэта вы самі.

***

Маці сказала дачцэ, што кавун спелы, калі пры пастукванні ўтвараецца гулкі гук. Яна ўзяла з прылаўка кавун і пачала па ім стукаць, намагаючыся вызначыць характар гуку. Супрацоўнік магазіна, які праходзіў міма, кінуў: «Што, нікога няма дома?»

**«Рыдэрз Дайджэст»**

## POST FACTUM

### Гэты дзень у гісторыі

**13 лютага 1823 года** нарадзіўся вядомы рускі драматург Аляксандр Мікалаевіч Астроўскі, аўтар п'ес «Даходнае месца», «Лес», «Ваўкі і авечкі», драмы «Навальніца» і іншых твораў.

**У гэты дзень у 1873 годзе** нарадзіўся Фёдар Іванавіч Шаляпін, славуты рускі спявак: спяваў на сцэне Маскоўскай прыватнай рускай оперы, у Вялікім і Марыінскім тэатрах; сярод лепшых партый — Барыс («Барыс Гадуноў» Мусаргскага), Мефістофель («Фауст» Гуно), Млынар («Русалка» Даргамыжскага), Сусанін («Іван Сусанін» Глінкі). З 1922 года — за мяжой, памёр у 1938 годзе.

**13 лютага 1918 года** створаны Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацком)— аддзел Народнага камісарыята РСФСР па справах нацыянальнасцей. Узначальваў яго А. Чарвякоў (да мая 1918 года). Меў аддзелы: агітацыйна-палітычны, культурна-асветніцкі, бежанскі, выдавецкі; аддзяленні ў Петраградзе, Смаленску, Арле, Самары, Калузе, Саратаве, Сімбірску. Друкаваны орган — газета «Дзянніца». Скасаваны ў сакавіку 1919 года.

**У гэты ж дзень таго ж 1918 года** створана Мінскае беларускае прадстаўніцтва (МБП) — палітычнае аб'яднанне беларускіх нацыянальных партый і груп. Уваходзілі: беларускія народныя сацыялісты, сацыялісты-аўтанамісты, хрысціянскія дэмакраты, Беларускі праваслаўны саюз, Саюз зямельных уласнікаў. Друкаваны орган — газета «Беларускі шлях». МБП стаяла за захаванне прыватнай уласнасці на зямлю і сродкі вытворчасці, прапагандавала ідэю класавага адзінства беларускай нацыі. Летам 1918 года ўзначальвала кіраўніцтва ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі.

**18 лютага 1956 года** на беразе Антарктыды была адкрыта савецкая навуковая абсерваторыя Мірны — галоўная база савецкіх экспедыцый на паўднёвым мацерыку.

**18 лютага 1964 года** ў Ленінградзе быў арыштаваны паэт Іосіф Бродскі і пасля суда адпраўлены ў ссылку; у 1972 годзе эмігрыраваў у ЗША. Аўтар зборнікаў «Остановка в пустыне», «Конец прекрасной эпохи», «Часть речи» і інш. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі. У ноч з 27 на 28 студзеня 1996 года памёр ад сардэчнага прыступу ў Нью-Йорку.

### А яшчэ быў выпадак

***Медыкі заяўляюць, што распрацавалі новы суперэфектыўны прэпарат, які прыносіць імгненную палёгку хворым на артрыт. Але яны вымушаны адкласці яго прэзентацыю вучонаму свету, таму што... лабараторныя пацукі з'елі рэцэпт.***

Хімік Ларс Кнудсен і яго калегі працавалі больш як год, удасканальваючы лячэнне артрыту ў адной прыватнай лабараторыі і захоўваючы падрабязныя запісы ў сакрэтнай скрынцы ў памяшканні. Занадта позна яны агледзеліся: аднойчы ноччу пара белых пацукоў, якія ўтрымліваліся праз перагародку ў той жа скрынцы, прагрызлі сценку і з'елі каштоўныя запісы.

### Цікава...

***Ручны певень па мянушцы Рамон, які жыве ў адной іспанскай сям'і, вітаў кожны ўзыход сонца серыяй радасных крыкаў. Нарэшце мясцовы суддзя загадаў яго ўладальніку ўціхамірыць пеўня, завязаўшы яму дзюбу!***

Суддзя Сант'яга Эспейджа выдаў гэты дзіўны ўказ пасля таго, як суседзі паскардзіліся яму, што кукарэканне Рамона ў трычатыры гадзіны раніцы раздражняла іх і не давала спаць. «Так што кожную ноч я завязваю яму дзюбу, а раніцай, пасля 9 гадзін, развязваю», — сказаў гаспадар пеўня, 36-гадовы Эрнеста Клементэ.

### Што ў імені маім...

***Тонкае і крыху таямнічае гучанне імёнаў людзей, народжаных пад знакам Рака, перадае іх уважлівы і сентыментальны характар. У некаторых з іх падкрэсліваюцца дзіцячая непасрэднасць і непастаянства гэтага знака.***

Вось якія імёны найлепш падыходзяць **для Ракаў-мужчын:** Арсеній, Валянцін, Вячаслаў, Дзмітрый, Елісей, Ілья, Іосіф, Максім, Станіслаў, Сіланцій, Ювеналій, Ян; **для жанчын** можна падабраць наступныя імёны: Алеся, Ганна, Дзіяна, Алена, Лізавета, Ія, Івета, Зоя, Лілія, Лідзія, Мілена, Сільвія, Сафія, Юлія, Яна.

### Анекдот

*Гаспадыня спявае ў гасцінай.*

*Раптам яна спыняецца і крычыць пакаёўцы:*

*— Марыя, не дазваляй сабаку выць, калі я пяю!*

*— Але гэта не сабака, мадам, гэта— ваш муж.*

## Тэлебачанне, 13 лютага

### Беларускае тэлебачанне

». **10.45** «Мільён прыгод. Востраў іржавага генерала». Маст. фільм. **11.55** Чацвёртае вымярэнне. **12.35** «Сабака Баскервіляў». Маст. фільм. 1-я серыя. **15.00** Навіны. **15.15** Гандлёвы дом. **15.30** «Акулярнік». Маст. фільм. **16.15** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. «Праўда жыцця». Іван Мележ і яго раман «Людзі на балоце». **16.45** Сугучнасць. «VII Міжнародны музычны фестываль імя І.І.Салярцінскага». Частка І-я. Перадача з Віцебска. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей. **18.25** Эканамікст **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам) **19.05** Вертыкаль. Інтэрв'ю Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Шарэцкага. **19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял. **20.40** Калыханка **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** Ю.Кіселюс. І.Мірашнічэнка ў мастацкім фільме «Скарга». **23.25** «Супергол». Агляд матчаў еўрапейскіх футбольных чэмпіянатаў **24.00** Навіны.

### ГРТ

**10.15** «Востраў капітанаў». Мультфільм. Фільм 1-ы. **10.30** «Адгадай мелодыю». **11.00** Навіны (з сурдаперакладам). **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.50** «Супрацьстаянне». Серыял. 3-я серыя. **13.00** «Востраў капітанаў». Мультфільм. Фільм 2-і. **13.10** «Т.С.Н.» («Тэлевізійная служба навін»). Серыял. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Драконы падзямелляў». **14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.50** Мульцітролія. **15.10** Чароўны свет, або Сінема. **15.35** «Элен і хлопцы». **16.00** ... Да шаснаццаці і старэйшым. **16.30** Сем дзён спорту. **17.00** Навіны. **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** Тэма. **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **19.55** Рэклама. **20.00** Час. **20.30** «Аперацыя». **20.40** Рэклама. **20.50** Настасся Вярцінская і Уладзімір Коранеў у фільме «Чалавек-амфібія». **22.30** Масква—Крэмль. **22.50** Навіны. **23.00** Аркестр Каўнта Бейсі ў Маскве. **23.55** «Т.С.Н.». («Тэлевізійная служба навін»). **0.45** Сем дзён спорту.

### Канал «Расія»

**10.20** Міліцэйская хроніка. **10.30** «Водбліскі». Дак. фільм. **10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **11.15** Новая лінія. **15.05** Там-там навіны. **15.15** Свята кожны дзень. **15.25** «Адысея». Маст. фільм (Канада). **15.50** Каляндар. **16.20** Новая лінія. «Нітка Арыядны». **16.50** Кліп-антракт. Л.Агуцін. **16.55** Кінаафіша. **17.10** Непапулярная тэма. **17.25** Вуснамі дзіцяці. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** «Вялікі Шу». Маст. фільм (Польшча). **21.25** Сам сабе рэжысёр. **22.30** Рака часу. **22.35** Аўтаімгненне. **22.40** Рэк-тайм. **22.55** «Спрут-5». 10-я серыя. **23.50** Джаз-клуб.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 77-я серыя (ЗША). **17.30** Вялікі рынг. **18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. **18.35** Герой дня. **19.00** Свет кіно. Жан Габэн, Жэрар Дэпардзье і Віктар Лану ў фільме «Справа Дамінічы» (Францыя-Італія). **20.45** Дзецям. Мультфільм на ноч. «Ба-бу-ля!» **21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. **21.35** Гадзіна серыяла. «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 29-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск. **23.20** Меламанія: «Дайр Стрэйтс».

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ. **12.10** «Гром у раі». Серыял. **12.55, 15.10, 16.25** Музычны момант. **13.00** Хуткая дапамога. **13.30** Парады садаводам. **13.40** «Насланнё». Мастацкі фільм (Расія). **15.15** Стыль жыцця. **15.40** «Нямецкая хваля». **16.00** Тэлешансон. **16.30** Дзіцячае ТБ. «Тры колы, фаліянт і...» **17.00** Па ўсёй Расіі. **17.10** Паказвае Ленінградская АТК. **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** Спартыўныя навіны. **18.55** «Гром у раі». Серыял. **19.45** Тэлеслужба бяспекі. **19.55** Тэатральны бінокль. **20.25** «Клятва». Маст. фільм. 1-я серыя. **22.00** Спорт, спорт... **22.10** Дзень нараджэння. **22.20** «Клятва». Маст. фільм. 2-я серыя.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 589.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12